

«Роднае слова» →3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Грыша Гарбуз →5


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 17 (3128) Год LXI | Беласток, 24 красавіка 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Змаганне з нязручнай памяццю

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



**«БЕЛАЯ СІЛА. ЧОРНАЯ ПАМЯЦЬ» — спектакль Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку ўжо за некалькі тыдняў да яго прэм'еры выклікаў бурныя спрэчкі. Падобна таму, як раней зборнік рэпартажаў Марціна Концкага, які быў яго асновай. Задоўга да прэм'еры супраціў прадстаўленню выказалі ведаючыя з «уцечкі» яго сцэнарый некаторыя беластоцкія радныя, каталіцкія арганізацыі, Усяпольская моладзь, ОНР (Нацыянальна-радыкальны лагер). У тэатр траплялі ананімныя пагрозы расправы. Чатыры гадзіны да прэм'еры перад тэатрам запратэставала каля сарака актывістаў Усяпольскай моладзі і каталіцкіх арганізацый.**

У той жа час паўтарагадзіннае прадстаўленне аказалася знакамітым ва ўсіх адносінах спектаклем, асабліва па рэжысуры і майстэрстве акцёраў, не пакідаючы гледача абыякавым да многіх забытых ці выцесняных жыхарамі Беластока і Падляшша праблем, звязаных з іх самабытнасцю і гістарычнай памяццю (таксама беларускай, праваслаўнай), закранаючы крывадушнасць, ксенафобію ці неталерантнасць. «Гэта, — як сказалі некаторыя гледачы пасля выхаду з прэм'еры (16 красавіка), — моцны спектакль, які ўдарае сілай слоў, але і прыносіць ачышчэнне»:

— Ён паказаў, што тут, у Беластоку, але, верагодна, не толькі тут, да памяркоўнасці, адкрытасці нам далёка. Гэта пазбаўляе нас нявіннасці, але дае сілу, каб зрабіць штосьці з гэтым усім, пра што гаворыцца, зрабіць.

## Ці гэта абраза?

Аб пратэсце некаторых членаў Гарадской рады Беластока, у асноўным Кшыштафа Стаўніцкага (прысутнічаў на прэм'еры, але дэманстратыўна пакінуў тэатр падчас авацыі іншых гледачоў) пісалі мы яшчэ да рэпетыцый спектакля. Больш за тыдзень да прэм'еры свой пратэст супраць падрыхтоўванаму тады спектаклю накіравалі да падляшскага маршалка Ежы Ляшчынскага (Драматычны тэатр у Беластоку з'яўляецца ўстановай падляшскага самаўрада) некалькі каталіцкіх арганізацый. Ён быў накіраваны да ведама, сярод іншага, ваяводу, прэзідэнту Беластока і кіраўнікам мясцовых Каталіцкай і Праваслаўнай цэркваў. «Змешчаны ў сцэнарыі змест не мае нічога агульнага з мастацтвам. Гэта здзек з нашага хрысціянства, патрыятызму, традыцый і каштоўнасцей, якія мы шануем і якія мы будзем абараняць. Сцэнарый абражае грамадскіх асоб, якія карыстаюцца павагай у нашым горадзе. Высмейвае нашых герояў — Салдат праклятых, якія прапілі сваю кроў за свабодную і незалежную Радзіму (...). Рэалізаванае з нашых падаткаў блюзнерскае мерапрыемства з'яўляецца здзекам з Беластока, з яго высакародных грамадзян, а таксама з Падляшша», — напісалі ў лісце, выказваючы моцную апазіцыю да планаванай прэм'еры «ганебнага тэксту, рэалізаванага на аснове ілжывай кнігі» і патрабуючы ад маршалка зняць пастаноўку з афішы.



■ Дырэктарка Агнешка Карыткоўская-Мазур «узнагароду» ад Усяпольскай моладзі перадала рэжысёру спектакля Пятру Ратайчаку

Тэатр у афіцыйным камюніке заявіў: «Кнігу, якая натхніла нас, не трактуем як адкрытай ісціны. Нікога не асуджаем, і не ацэньваем. Прадстаўляем рацыі, прыглядаемся адносінам і ставім пытанні, напрыклад такія, што мы зрабілі б тады? Што мы б сказалі маладому неанацысту, які малюе на сцяне дзіўны знак, аб якім мясцовы пракурор напісаў, што гэта «сімвал шчасця». Ці, мабыць, гэта ўсё няпраўда. Медыйная змова. Пераслед. Мабыць, Беласток гэта не сталіца антысемітызму і заўзятарскіх падрахункаў, але на самой справе горад поўны міласэрнасці, жамчужына Усходу, Версаль, мультыкультурная, адкрытая, зялёная і дружалюбная метраполія. Мабыць і так. Ці, мабыць, не. У тэатры не павінна быць простых пытанняў або тым больш простых адказаў».

За чатыры гадзіны да прэм'еры на плошчы перад тэатрам пратэставалі дзеячы беластоцкай Усяпольскай моладзі і прадстаўнікі каталіцкіх арганізацый. Яны пачалі з малітвы. Прызначылі аўтару кнігі і дырэктарцы тэатра Агнешцы Карыткоўскай-Мазур «прыздыплом» імя Йозефа Гебельса «за выдатныя дасягненні ў распаўсюдзе прапаганды». Дырэктарка асабіста «прыз» атрымала, калі выйшла да дэманстрантаў пад тэатр. Марціна Концкага не было тады яшчэ ў Беластоку. Некалькі дзён раней актывісты Усяпольскай моладзі заявілі: «Тэатр у дадзеным выпадку з'яўляецца інструментам для распаўсюджвання левай прапаганды! Пад прыкрыццём высокай культуры прасоўваюцца дэвіяцыі, блюзнерства, а актывістам заўзятарскіх і нацыяналістычных рухаў прыпісваюцца самыя горшыя рысы! Гэта вельмі неэтычныя паводзіны. Мы не дапусцім фальшыва міфалагізаваць нас да ролі «прымітыўных вулічных дэбашыраў!».

У дзень прэм'еры дзеячы крайне правага, нацыяналістычнага Нацыянальнага радыкальнага лагера (ОНР), у сваю чаргу, сарганізавалі якраз у Беластоку цэнтральныя святкаванні 82-годдзя ўзнікнення арганізацыі імшой у каталіцкай кафедры (выпадковае супадзенне даты) і шэсце па горадзе. Паліцыя не дазволіла завяршыць шэсце перад тэатрам, як яны першапачаткова хацелі.

## У атмасферы другога спектакля

За рэжысуру (і музычнае афармленне) адвоўвіча адказваў адзін з самых таленавітых польскіх тэатральных рэжысёраў сярэдняга пакалення Пётр Ратайчак, да нядаўняга часу дырэктар Драматычнага тэатра ў Валбжыху. Яшчэ ў час прэс-канферэнцыі, якая папярэднічала прэм'еры, пераконваў, што прадстаўленне не з'яўляецца вернай адаптацыяй кнігі, але лакальныя матывы тут ясныя, што гэта арыгінальны тэкст, «аўтаномны тэатральны сцэнарый», напісаны Пятром Равіцкім:

— Ёсць некаторыя тэмы, пра якія пісаў Марцін Концкі, якія развіваем або якімі гуляем, часам мяняем кантэксты.

Ён дадаў, што непазбежна гледачы ў Беластоку будуць асацыяваць персанажы п'есы з канкрэтнымі асобамі, але падкрэсліў, што ён не ўзурпуе права ацэньваць канкрэтных герояў і не ацэньвае палітычнай дзейнасці паасобных індывідаў, таму што гэта не з'яўляецца мэтай спектакля:

— Мы хочам распавесці пра гісторыю, якая ўвесь час ляжыць на нас цяжарам, якая сёння з'яўляецца палітычна важнай у палітычным жыцці, выкарыстоўваецца ў палітычных мэтах, і мы з гэтай гісторыяй як паасобныя грамадскасці і дзяржава ў цэлым не да канца размежаваліся ці інтэграваліся. П'еса пра тое, як выцесняныя факты гісторыі да гэтага часу выцякаюць, дзесьці нанава нараджаюцца, хаця б праз папулярнасць нацыянальных рухаў. Аб прыкрыванні часта нязручнай памяці. З іншага боку, гэта хвалюючы вобраз гарадской тканкі і таго, што адбываецца ў розных гарадах. Пытаемся, ці гэта так, што кожная, або нейкая частка нашай мясцовай дэмакратыі мусіць функцыянаваць такім чынам, што гэта сістэма сазлучаных сасудаў. Бачанне горада, у якім кіруючую тканку ўяўляе сабой «група трымаючая ўладу», значыць, радныя, бізнес, каталіцкае духавенства, мяне надзвычай турбуе.

працяг → 10



9 770546 196000



# Нашы праблемы

Ну вось і дачакаліся, як напісаў бы мой сябра і калега па пяру. Яшчэ восем еўрапейскіх краін знялі санкцыі ў дачыненні да дзяржаўных асоб і гаспадарчых кампаній Рэспублікі Беларусь. Гэтыя краіны не ўваходзяць у Еўрасаюз, але праз пэўны час таксама пастанавілі далучыцца да рашэння Рады Еўрасаюза. Місія вярхоўнай еўрапейскай камісаршы Фрэдэрыкі Магерыні ў дачыненні да Беларусі фактычна выканана. Яна даўно заяўляла, што падыход да краіны павінен быць рэалістычным і прагматычным. Таму і зняты ўсе санкцыі фактычна ў аднабаковым парадку. Ні дэмакратызацыі выбарчага працэсу, ні прыпынення смяротнага пакарання, ні расследавання спраў бясследна зніклых беларускіх палітыкаў з боку РБ, канешне, не наступіла. Так, лёгкая, лёгенькая лібералізацыя — штрафы грамадскім актывістам замест адміністрацыйных арыштаў ды новых крымінальных спраў — дык гэта ж нават выгодна дзяржаве — дадатковыя грошы ва ўжо прадзіраўленую гаспадарчым крызісам казну. Рацыянальна еўрапейцаў зразумець можна. Ну што такое праблема Беларусі ў параўнанні з ісламскім тэрарызмам, у параўнанні з катастрафічным наплывам бежанцаў і псеўдабежанцаў!? Ці тая ж смяротная кара. Ну расстраляюць у Беларусі за год двух-трох злачынцаў, што гэта ў параўнанні з колькасцю забітых такім чынам у Кітаі!? А з Кітаем жа ўвесь свет супрацуе, што называецца, на поўную катушку. Грошы не пахнуць, а ў гэтым свеце не было, няма і ніколі не будзе літасці. Таму ўсё заканамерна.

А ў Беларусі сёння, як не круці, дастаткова мяккая дыктатура. А тое, што еўрапейцы не разумеюць, альбо разумеюць і закрываюць вочы на тое, што фактычна наша краіна на сёння — амаль філіял Расейскай імперыі — ужо праблема. Але наша найперш. У Эквадоры і Японіі людзі гінуць фізічна ад землятрусаў, а у нас маральна ад расейскага ідэалагічнага цунамі. Фізічна таксама нямала загінула за чужы маскоўскі інтарэс — і ў абедзве сусветныя войны дваццатага стагоддзя, і ў Афганістане, і ў іншых гарачых кропках, і ў шматлікіх курапатах па ўсёй Беларусі. Ды і зараз памірае — ад чарнобыльскай і ракетнай радыяцыі, якой мы „абавязаны" найперш Маскве. Але большыня беларускага грамадства гэтага, на жаль, не ўсведамляе. Таму і будуецца расейская атамная станцыя пад Астраўцом — закладаецца міна страшнай смерці. Але калі гэтая пагроза не аб'яднала нават беларускіх дэмакратычных палітыкаў, то што хацець ад абалваненых тэлевізійнай прапагандай звычайных грамадзян. Ім увогуле не хочацца ўсведамляць, што насамрэч пагражае не толькі краіне, але асабіста кожнаму з іх. Вось тыя ж прадпрымальнікі ў сваёй пераважнай масе. Некалі яны паблажліва глядзелі на грамадска-палітычных актывістаў і казалі: „Мы палітыкай не займаемся, а сабе на кавалак хлеба заўсёды заробім!". Іх не цікавіла ні фактычная ліквідацыя парламента і незалежнасці судоў, ні знішчэнне беларускай мовы і нацыянальнай сімволікі. А іх папярэджвалі: „Не будзе мовы — не будзе вам і каўбасы!". І вось прыйшоў такі час. За ўсё ў гэтым свеце трэба плаціць. У даным выпадку — за абыякавасць і недальнабачнасць. Шчыра прызнаюся, што мне зусім не шкада гэтай катэгорыі насельніцтва — бо прадпрымальнікі — гэта не зацюканыя і абмежаваныя ў інфармацыйнай прасторы няшчасныя вяскоўцы ці гарадскія рабацягі. Гэта пераважна адукаваныя людзі, якія ўсё ведалі і разумелі ад пачатку, толькі не хацелі абцяжарваць свайго жыцця „лішнім".

Асабіста я шчыра парадуюся, калі эканамічная супраца і супольныя праекты еўрапейскіх дзяржаў з Беларуссю дадуць нейкі плён і хоць крыху адарвуць нашу краіну ад Расеі. Хоць і не веру ў гэта. З іншага боку еўрапейскія фонды ўсё менш хочуць дапамагаць грамадзянскай супольнасці Беларусі. На грантах розным сірыйскім ці ўкраінскім арганізацыям яны могуць куды больш „ашчадзіць" і выгадаць. І гэта таксама добра. Бо найбольшага поспеху наша нацыянальная супольнасць дасягала менавіта тады — калі не мела ні цэнта падтрымкі — у канцы васьмідзясятых і пачатку дзевяностых гадоў. Ніякія замежныя дзядзькі і цёткі не прынясуць беларусам ні свабоды і вольнасці, ні дабрабыту і заможнасці. Нашых праблем ніхто за нас не вырашыць.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# На перапынку



Як доўга змагу прасядзець за ўніверсітэцкай партай зусім не думаючы? Сядзець і слухаць пустой балбатні, прытым каб не пакрыўдзіць балбатуна, ветліва ўсміхацца і ківаць галавой на знак зразумення. Калі ёсць кава і закуска, не больш чым чатыры гадзіны. На пятай адчуваю ўжо хуткі працэс абмірання мазгавых клетак. Адначасова заміраюць таксама мае добрыя манеры. Ратуюся, ардынарна вымаючы з бел-чырвона-белай шмацянкі газету, якой быццам абрусам па-хамску засцілаю амаль тры чвэрці паверхні ўніверсітэцкай парты. Прыкладная бібліятэрапія. Балбатня ўжо не мучыць, а мозг паволька ажыўляецца.

Прафесарка па лічбавых класіфікацыях на перапынку знімае лічбавую маску. Здзіўляе свабодай думак. Рэдкі ўзор чалавецтва, якое не патрабуе аўтарытэтаў, не баіцца сумнявацца.

Арганізацыя ўніверсітэцкіх заняткаў пазбаўлена толку. Па-мойму перапынкі павінны трываць столькі, колькі заняткі, а заняткі столькі, колькі перапынкі.

Гутарым пра Беласток. Прафесарка па лічбавых класіфікацыях захапляецца яго гісторыяй, людзьмі, якія калісь тут пражывалі, пакінутымі імі слядамі.

— Такіх прыгожых, драўляных віл, якія былі тут, мабыць, не было ў цэлым свеце, — ставіць націск на слова „былі".

Тужыць па мінулым, не разумее сучаснасці. Выхавалася на Баярах. Яе маці хадзіла на ўрокі ігры на фартэпіяна да маці маэстра Максімюка. Прадзеды прыехалі сюды з цэнтральнай Польшчы на пачатку дваццатага стагоддзя. Пасьпяхова раскруцілі шавецкае прадпрыемства. Адна з цётак выйшла замуж за нямецкага прадпрымальніка з Міхалова. У 1938 годзе тагачасныя ўлады выгналі іх у Нямеччыну. Шмат падарожнічалі па цэлым свеце. У Польшчу ўпусцілі іх толькі ў сямідзясятых гадах дваццатага стагоддзя.

Адзін са студэнтаў — уплывовы гісторык, аўтар шматлікіх публікацый пра Беласток не ўспрымае тэзісаў у стылі „Беласток — жыдоўскі горад".

— Сямейныя гісторыі мяне не задавальняюць, — сцвярджае ўпэўнена. Падкрэслівае неабходнасць гістарычнага нарысу.

— Як бы не глядзець, палякі былі першымі. Былі і будуць. Беласток — польскі горад. Нам пашанцавала альбо і не пашанцавала, што пасля з'явіліся і іншыя, у тым ліку жыды.

— А пра Вялікае Княства Літоўскае ты чуў? — пытаю знакамітага гісторыка.

На жаль, такі тэрмін амаль не заўважальны ў яго асабістым, аўтарскім, гістарычным слоўніку. „ВКЛ" запісаў ён у графу супярэчлівых, неадназначных тэрмінаў.

— Нямецкія пасяленцы выдатна тут прыжыліся, — бароніць гонар айчыны гісторык. — Хапала чатырох пакаленняў, каб сталі яны героямі нашай Арміі Краёвай!

Затым скардзіцца на сённяшнюю дыскрымінацыю польскасці ў Польшчы.

— А кім павінны сябе лічыць мае продкі — легіянеры з цэнтральнай Польшчы, якіх Пілсудскі надзяліў зямлёй на Беларусі? — пытае ўплывовага гісторыка прафесар па лічбовасці. — Як назваць мужавых ваўкавыскіх пляменнікаў з пасляваеннага высылу па ўсе куткі Польшчы?

Тут перапынак канчаецца. Прафесар па лічбавай класіфікацыі вяртаецца да сваіх лічбаў. Аказваецца, адзінай рэччу, якой не атрымалася ёй скласіфікаваць па працягу апошніх трыццаці гадоў з'яўляецца залежнасць альбо незалежнасць паміж „імі" і „намі". Арабскія лічбы — складовая частка класіфікацыйнай сістэмы, кантраляваныя міжнародным кансорцыумам. З нейкага часу той жа кансорцыум забараніў дзяліць Львоў на польскі горад у перыяд да канца Другой сусветнай вайны і ўкраінскі горад — пасля той жа вайны. Цяпер у сістэме Львоў існуе толькі як украінскі горад.

— А чаму не назваць усіх былых і цяперашніх беластачан беластачанамі, львавян — львавянамі а крынчан — крынчанамі? — думаю, пахіліўшыся над плямай газеты. Сінім атрамантам абрысоўваю шрыфт памерам у 72 пункты — загаловак „Яны гэта мы".

— А што думаеш пра гэта? — паціху падсоўваю пад нос уплывовага гісторыка абрысаваныя літары.

— Ідэал пазбаўлены прыхільнікаў, — адказвае з добрай усмешкай.

— Найлепш пачаць з самога сябе, — падказваю.

— Ніколі, — адказвае ўплывовы гісторык быццам дзіця ў чарзе ў школьны туалет, якое заўсёды хоча быць першае і найважнейшае, нават у тым жа туалеце.

**Іаанна ЧАБАН**



Вачыма еўрапейца

# Больш маршрутаў

На амаль палову, а менавіта на 47 адсоткаў, мае павялічыцца ў наступным годзе колькасць маршрутаў на Падляшшы. У цэлым, самаўрад ваяводства, арганізатар рэгіянальнага транспарту, на чыгуначны транспарт у рэгіёне выдасць 2,5 мільёна злотых больш, чым планавалася раней (18,5 млн. зл.). Паведаміў пра гэта на днях на прэс-канферэнцыі падляшскі маршалак Ежы Ляшчынскі. Маршалак і дырэктар дэпартамента інфраструктуры і рэзерваў Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства Лешак Люлевіч аднак ужо на ўступе канферэнцыі зрабілі агаворку: «Гэта не канчатковае рашэнне, гэта намер».

Звярнулі ўвагу, што яшчэ трэба будзе дамовіцца з аператарамі (не толькі з «Рэгіянальнымі перавозамі»): «Intercity» і суседнімі ваяводствамі. Як абодва падкрэслілі, павелічэнне чыгуначных перавозак у рэгіёне з'яўляецца вынікам кансультацый з грамадскасцю і ўлічэння меркаванняў жыхароў. Маршалак дадаў: «Мы, управа ваяводства, бачым неабходнасць павелічэння чыгуначных маршрутаў, але гэта павінна быць разумным і не можа занадта абцяжарваць бюджэту ваяводства».

Прысутны на канферэнцыі прадстаўнік камісіі па развіцці, эканоміцы, інфраструктуры і прасоўванні Сейміка, член рады Караль Пілецкі назваў чыгуначныя прапановы маршалка «проста эвалюцыйнымі»: «Для таго, каб чыгуначныя перавозы мелі сэнс, то з дадзенай станцыі павінны адысці ад пяці да сямі цягнікоў у дзень. Калі гэты лік меншы, цяжка з пасажырамі. Мы спадзяемся, што дзякуючы павелічэнню колькасці маршрутаў лік пасажыраў будзе павелічацца».

Дырэктар Люлевіч у сувязі з графікам руху цягнікоў на наступны год на Падляшшы адзначыў: «Шмат зайваў атрымалі мы наконт гадзін адпраўкі і прыезду цягнікоў. Мы маем на гэтыя вылічэнні некалькі месяцаў (расклад руху цягнікоў на наступны год павінен быць вядомы ў канцы ліпеня — М. Х.).

Ён не хаваў, што на цягніках рухаецца ў цяперашні час мала пасажыраў, а ў рэгіёне не будуюцца новыя лініі з-за іх эканамічнай нерэнтабельнасці. Згодна з планамі МУПВ у раскладзе на наступны год павінен быць павялічаны лік маршрутаў м.інш. Беласток — Кузніца-Беластоцкая (ад дзвюх да чатырох пар), Гайнаўка — Чаромха (ад трох да чатырох пар), Беласток — Чаромха (ад дзвюх да чатырох пар).

Я спытаў аб планы наконт маршрутаў Беласток — Гродна — Беласток. Дырэктар Люлевіч сказаў: «Мы ўвесь час стараемся, каб меў ён міжнародны статус. Прыгадваем справу новым людзям, адказным за транспарт у міністэрстве (Міністэрства інфраструктуры, якое назірае за чыгункай, а ў выпадку міжнародных маршрутаў іх у значнай ступені фінансуе; яго службовыя асобы змяніліся неўзабаве пасля стварэння ўрада ПіС — М. Х.). Ёсць некаторыя гарантыі таго, што будзе ён запушчаны ў сярэдзіне года. Такі маршрут, безумоўна, павінен быць, і нават на шляху Гродна — Варшава — Гродна.

Ці ў Гродна і назад будуць ездзіць па меншай меры тры пары цягнікоў, пакуль дакладна невядома. Затое адразу пасля прэс-канферэнцыі амаль напэўна вядома, што будзе працаваць зноў, цяпер выключаны ПКП з чыгуначнага руху, чыгуначны маршрут Беласток — Валілы. Так мае быць па выхадных. Гэта адбылося пасля перамоў прадстаўнікоў чыгункі, маршалкоўскіх чыноўнікаў і бургамістра Міхалова Уладзіміра Кананчука ды войта Гарадоцкай гміны Вeслава Кулешы, якія дэкларавалі — так як і маршалак — гатоўнасць сумеснага фінансавання гэтага маршруту. І так, па маршруце Беласток — Валілы — Беласток паедзе адна пара цягнікоў з 21 мая па 25 верасня. Ініцыятарам праекта «Цягнік у Валілы па выхадных» з'яўляецца Андрэй Каспяровіч з вёскі Саколе. Здаецца, цяпер час на іншыя такія невялікія лакальныя маршруты, можа не толькі ў выхадныя дні. Вядома ж, аднак, неабходны для гэтага фінансавы ўдзел гмін.

Раней, падчас прэс-канферэнцыі на тэму маршрутаў цягнікоў у наступным годзе, маршалак падкрэсліў: «Мы падавалі і падаем у міністэрства праекты развіцця чыгуначнай сеткі. Для таго, каб ваяводства развівалася, патрэбныя інвестыцыі звязаныя з пагранпераходамі і якраз з чыгуначнымі маршрутамі».

Вядома, на дадзены момант цяжка не пагадзіцца з маршалкам, дадаўшы, аднак, неабходнасць павелічэння дарожных інвестыцый. Пры выдатнай разбудове дарог яшчэ большая колькасць чыгуначных маршрутаў можа быць лішняй. Гэта, аднак, у будучыні, і напэўна не тычыцца наступнага года.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# 45-е «Роднае слова»

**Сто пяць дэкламатараў з Беласточчыны выступіла падчас фінальнага этапу 45 выпуску дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова», які 8 красавіка традыцыйна адбыўся ў Бельскім доме культуры. Камісія ацаніла, што ў агульным дашкольнікі, вучні падставовых і гімназічных школ на высокім узроўні запрэзентавалі ўменне дэкламаваць вершы. Са сцэны прагучалі патрыятычныя творы, а сярод іх аўтараў было прозвішча нядаўна памерлага народнага пісьменніка Ніла Гілевіча. Вучням і настаўнікам яго вершы падабаюцца з-за іх эмацыйнасці, гумару і адукацыйнага характару.**

— Дашкольнікі і вучні першых класаў пачатковай школы выступілі займальна. Цешыць, што не рабілі памылак у акцэнтуацыі і вымаўленні. Многія старэйшыя вучні падставовых школ і гімназісты паказалі спелую дэкламацыю на высокім мастацкім узроўні і складана будзе надзяляць прызавыя месцы. Многія дэкламатары прыехалі чарговы раз, але ёсць асобы, якія паявіліся ў нашым конкурсе ўпершыню і дайшлі да фіналу. Спадзяемся, што прыедуць праз год. Сёння адзначаем два юбілеі: 45 выпуск дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова» і 60-годдзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства, — сказаў старшыня конкурснай камісіі доктар Васіль Сегень і заадно намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ, арганізатара конкурсу «Роднае слова».

— Нашым вучням і мне падабаюцца вершы Ніла Гілевіча. Яны цікавы таксама для публікі, некаторыя з-за гумару, а іншыя важныя з-за адукацыйнага зместу, — заявіла настаўніца беларускай мовы Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы Беата Кендысь.

Пастаянныя дэкламатары беларускіх вершаў з гэтай школы Барташ Яканюк і Ванда Гіншт дэкламавалі вясёлыя вершы Гілевіча — «Валік-забывалік» і «Хто з бабуляй пойдзе ў лес?», а Наталля Буслоўская (таксама з гэтай жа школы) сказала верш Гілевіча «Першая настаўніца». Іх да конкурсу рыхтавалі настаўніцы Беата Кендысь і Людміла Грыгарук. Верш «Хто з бабуляй пойдзе ў лес?» гаварыла таксама Ізабэла Карчэўская з Комплексу школ у Чыжах, з якой прыехала настаўніца беларускай мовы Валянціна Андрасюк.

— Я дэкламую па-беларуску з прадшколля і пастаянна прымаю ўдзел у конкурсе «Роднае слова». Верш Ніла Гілевіча я выбраў з ліку іншых прапаноў маёй настаўніцы, пані Беаты, бо гэта гумарыстычны верш і, думаю, што спадабаўся таксама публіцы, — сказаў Барташ Яканюк.

Яго мама, Анна Яканюк, дабавіла, што Барташ у мінулым годзе на фінальным этапе «Роднага слова» заняў першае месца. Сёлетнюю дэкламацыю сына таксама ацаніла вельмі высока.

— Я і раней дэкламавала творы Ніла Гілевіча. Люблю гаварыць гумарыстычныя творы. Вершы гэтага паэта мне падыходзяць, — заявіла Ванда Гіншт.

Вершы Ніла Гілевіча дэкламавалі таксама Ілья Гапанюк з бельскай «тройкі» — верш «Я — беларус», і Юлія Скарбіловіч з Бельскай белгімназіі — верш «Родная мова». У размове са мной выявіла яна радасць, што добра атрымалася ў яе дэкламацыя твора пра родную мову.

— Узровень выступаў падчас фінальнага этапу «Роднага слова» — высокі. Дашкольнікі і вучні падабралі цікавыя творы, у тым ліку патрыятычныя вершы і творы нядаўна памерлага паэта Ніла Гілевіча. Нядаўна Дарафей Фіёнік, Тамаш Суліма і некалькі спадарожных ім асоб пабывалі ў Мінску на прамоцыі нававыдадзенай кніжкі пра бежанства. Карыстаючыя нагодай, паехалі яны ў царкву на пахаванне нашага пісьменніка Ніла Гілевіча, — заявіла Альжбета Фіёнік, адказная ў Бельскім доме культуры за тэатральную дзейнасць, якая вяла дэкламатарскі конкурс. — Заказваючы паасобных дэкламатараў, бачу, што падборка рэпертуару наогул падыходзіць да тэмпераменту вучняў. У нас, у Бельску, паявілася новая школа, Непублічная пачатковая школа № 1 імя св. архіепіскапа Лукаша Войны-Ясеніцкага, дзеткі якой таксама прыступілі да беларускага конкурсу.



Барташ Яканюк з Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы



Сяргей Шэшка з Комплексу школ у Ягуштове

Дашкольнікі і наймалодшыя вучні дэкламавалі адважна і займальна, як сказалі слухачы — ад сэрца. Некаторыя з іх заставаліся ў канцэртнай зале дома культуры паглядзець выступленні равеснікаў, іншыя выходзілі на калідор, паколькі наймалодшым складана ўсядзець доўга ў крэслах.

Пераможцамі ў катэгорыі дашкольнікаў сталі Юлянна Шчыкоўская з Непублічнага садка імя св. дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім і Міхал Зайкоўскі з Прадшколля № 2 у Гайнаўцы. Другое месца занялі Лена Мацяюк з Прадшколля № 14 у Беластоку і Таіса Фіёнік з тэатральнага калектыву «Антракт» Бельскага дома культуры. На трэціх месцах апынуліся Ян Лісоўскі з Прадшколля № 1 у Гайнаўцы і Вольга Сцепанюк з Прадшколля № 14 у Беластоку.

Настаўнікі гаварылі, што сёлета ўдзельнікі конкурсу добра запрэзентаваліся на фінальным этапе, пасля раённых адбораў у Беластоку, Гайнаўцы (дзе самая вялікая акруга па колькасці ўдзельнікаў конкурсу), Бельску-Падляшскім і Орлі (дзе самая невялікая акруга, якая нейкі час таму была вылучана з бельскай акругі).

— Мы захоплены сёлетняй дэкламацыяй ва ўсіх катэгорыях, — сказалі настаўніцы беларускай мовы Валянціна Андрасюк з Чыжоў і Ніна Абрамюк з Нарвы.

Калі конкурсная камісія (старшыня Васіль Сегень, члены — Ірэна Ігнатовіч і Яніна Плютовіч) закончыла работу, аказалася, што лепшыя дэкламатары з чыжоўскай і нарваўскай школ занялі прызавыя месцы ў паасобных катэгорыях.

У катэгорыі вучняў клас I-III Аляксандра Максімюк з Комплексу школ у Чыжах заняла першае месца. Першыя месцы ў гэтай катэгорыі занялі таксама Павел Сельвясюк з бельскай «тройкі» і Мікалай Абрамюк з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку. Другія месцы занялі Павел Алексяюк з Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы, Таццяна Сахарчук з бельскай «тройкі», Алівія Жэпка з Нарвы і Анна Іванюк з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку. Трэція месцы ў гэтай катэгорыі занялі Мартына Гэраз з бельскай «тройкі», Марыя Валосік з Белавежы, Габрыеля Грэсь з Гарадка і Лукаш Хіліманюк з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку.

Настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе ў Белавежы Анджаліна Масальская, якая прыехала на цэнтральны агляд з трыма вучнямі, пахваліла сваіх выступальнікаў за ўдалую дэкламацыю. Настаўніца беларускай мовы ў Гмінным комплексе школ у Міхалове Людміла Сегень сказала, што многа асоб у гэтай школе вучыцца беларускай мове. Замяшчаючы пастаянную настаўніцу беларускай мовы, падрыхтавала яна вучняў да конкурсу «Роднае слова», а яе дэкламатар Адрыян Данілюк заняў другое месца ў катэгорыі вучняў IV-VI класаў. Першае месца ў гэтай катэгорыі занялі Ілья Фіёнік з бельскай «тройкі», Барташ Яканюк з Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы і Сяргей Шэшка з Комплексу школ у Ягуштове. Другое месца занялі таксама Якуб Казімірук з Пачатковай школы ў Новым Корніне, Малгажата Галёнка з Непублічнай пачатковай школы ў Арэшкаве і Лена Сульжык са школы ў Гарадку. Трэція месцы занялі Магдаліна Андраюк з Вясковага дома культуры ў Рыбалах, Мартына Белавежац са школы ў Чыжах і Ванда Гіншт з Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы.



Ілья Фіёнік з бельскай «тройкі»



Настаўніцы беларускай мовы Іаанна Марко з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку, якая на фінальны этап прывезла ажно 10 вучняў, Альжбета Раманчук, якая вучыць беларускай мове ў школах у Гарадку і Залуках, Ірэна Герасімюк са школы ў Арэшкаве і Надзея Цілюлька са школы ў Ягуштове былі рады выступам сваіх вучняў, частка якіх стала пераможцамі 45 выпуску «Роднага слова». Дзеткі з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку і са школ у Гарадку і Залуках сказалі, што любяць дэкламаваць па-беларуску і таму ахвотна прыступаюць да конкурсу «Роднае слова». Многа вучняў прыбыло на конкурс з бельскай «тройкі». Большасць з іх дэкламуе чарговы раз і не раз былі пераможцамі ў мінулым.

Сярод гімназістаў першыя месцы занялі Крыстыян Паскробка са школы ў Нарве, Юлія Бяганская з Гайнаўскай белгімназіі і Павел Кучынскі з бельскай «тройкі», на другіх месцах апынуліся Аляксандра Буслоўская з Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы, Моніка Зырчук-Жар з Гімназіі ў Орлі і Максім Фіёнік з бельскай «тройкі», а трэція месцы занялі Соня Ніна Сульжык з Комплексу школ у Гарадку, Яцак Дружба з Гайнаўскай белгімназіі і згаданая раней Юлія Скарбіловіч з бельскай «тройкі».

— Я вельмі люблю выступаць перад публікай. Аднолькава падабаюцца мне выступы падчас «Беларускай гавэнды» і тэатральных прадстаўленняў. Цяпер я слухаў іншых дэкламатараў ажно да свайго выступу, а пасля выйшаў на калідор, каб не нервавацца, слухаючы канкурэнтаў са сваёй катэгорыі, — заявіў гімназіст са школы ў Нарве Крыстыян Паскробка.

Настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі прыехаў у Бельск з вучнямі Гайнаўскай белгімназіі. Частка дэкламатараў «Роднага слова» — гэта вучні з Гайнаўшчыны, якія раней выступалі падчас «Беларускай гавэнды» ў Гайнаўскім белліцэі, арганізаванай настаўнікам Янам Карчэўскім, і якія занялі прызавыя месцы ў абодвух конкурсах.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА



Павел Кучынскі з бельскай «тройкі»

Юлія Бяганская з Гайнаўскай белгімназіі

## Гарадоцкая дэмаграфія

Гарадоцкая гміна Беластоцкага павета займае плошчу ў 430 квадратных кіламетраў. Яна цягнецца ад дзяржаўнай мяжы з Беларуссю аж но пад Беласток, ад Баброўнікаў да Маёўкі — за 42 кіламетры. У гміне 35 салэцкіх вёсак, а ўсіх вёсачак, хутароў і невялічкіх пасяленняў 45. Пяць гадоў таму існавала яшчэ адно паселішча з адным жыхаром. Зараз яго няма.

Цяпер у Гарадоцкай гміне пражывае 5 409 чалавек, а пяць гадоў таму было 5 699. Гарадок налічвае 2 464 жыхары (пяць гадоў таму было 2 567). Апрача Гарадка да найбольшых вёсак у Гарадоцкай гміне належаць Валілы-Станцыя — у ёй 613 жыхароў ды тут па-суседску ёсць Валілы-Двор — 133 жыхары і Валілы — 94 жыхары, Залукі — 228, Вейкі — 151, Баброўнікі — 131, Меляшкі і Меляшкі-Калёнія — 124, Пяшчанікі — 93, Зубры — 92, Зарэчаны — 89, Бялевічы — 84, Сафіпаль — 82, Калодна — 81, Случанка — 73, Каралёвы Мост — 62 і Вераб'і — 54.

Менш чымсьці 50 жыхароў налічваюць Руда — 42, Боркі, Зялёная і Страшава — па 39, Лужаны — 36, Радунін — 35, Пераходы — 34, Грыбаўцы — 33, Скраблякі — 32 ды Даўнева, Дзернякова і Каралёвае Стойла — па 30 жыхароў. Найменшымі пасяленнямі на тэрыторыі Гарадоцкай гміны з'яўляюцца Габяты — 4 жыхары, Засады — 5, Ярылаўка — 8, Глейск — 10, Юзэфова — 13, Нарэйкі — 14, Падзалукі і Свіслачаны — па 20, Зубкі — 21 ды Гарадок-Калёнія — 25 і Коматаўцы — 26 жыхароў.

Паўсюдная з'ява — так як на ўсёй так званай Усходняй сцяне — абязлюдзенне вёсак. І так, у Гарадку за пяць апошніх гадоў лік жыхароў паменшаў на 103 чалавекі, у Вейках і Зубках — на 23, у Залуках — на 16, у Валілах — на 15, у Меляшках — на 14, у Баброўніках на 13, у Зубрах і Падазеранах — на 11 ды ў Коматаўцах — на 9. На восем жыхароў паменшалі Бялевічы, Дзернякова, Свіслачаны і Вераб'і, на сем — Грыбаўцы, Калодна і Валілы-Двор, а на шэсць — Глейск, Мастаўляны, Навасёлкі і Валілы-Двор.

Пабольшала жыхароў у дзесяці вёсках: у Залуках — на 16, у Вераб'ях — на 8, у Зарэчанах — на 6, у Даўневе і ў Каралёвым Мосце — на 5, у Рудзе — на 3, у Каралёвым Стойле, Нарэйках і ў Скрабляках — на 2 ды ў Страшаве — на 1 жыхара.

У 2015 годзе ў Гарадоцкай гміне „залатое вяселле" згулялі адзінаццаць пар, нарадзілася 39 дзяцей ды памерлі 103 чалавекі. Стогадовых жыхароў не было.

## Кінафільм „Сярожа" у Нараўцы

7 красавіка гэтага года ў кіназале Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы ладзілі дэманстрацыю дакументальнага кінафільма пад загалоўкам „Сярожа", якога рэжысёрам з'яўляецца беластачанін Юрый Каліна. У той дзень у Нараўку прыехалі герой кінафільма Сяргей Нічыпарук, кінарэжысёр Юрый Каліна і радыёжурналіст з Беластока Яраслаў Іванюк. Прыехалі і прыйшлі жыхары дзесяці нараўчанскіх вёсак. Мерапрыемства арганізавала Галена-Марыёля Рээнт, дырэктарка ГАК.

Кінафільм цікавы як і яго герой Сяргей Нічыпарук, чалавек са складаным жыццяпісам, які зараз жыве ў вёсцы Буды ў Белавежскай пушчы. Пасля дэманстрацыі кінафільма адбылася ажыўленая змястоўная дыскусія. Госці ахвотна адказалі на ўсе пытанні гледачоў.

7 красавіка праваслаўнае свята Благавешчанне і з гэтай нагоды дзеля традыцыі гасцей ды і ўсіх прысутных на мерапрыемстве пачаставалі смакавітым пірожным „буславы лапы" ды яблычным кампотам. Пачастунак падрыхтавала Нэля Харкевіч, кіраўнічка святліцы ў Нараўцы.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Беларушчына праз тэатр

**Дванаццаць груп удзельнічала ў сёлетнім конкурсе тэатральных калектываў, арганізаваным Таварыствам беларускай культуры. Праводзіўся ён сорак першы раз. Для дзяцей і моладзі ў чарговы раз была гэта вельмі добрая забава, але пры нагодзе і праца над каля дваццаціхвілiннымі мініспектаклямі — удасканальванне беларускай мовы. Журы прысудзіла прызы ў намінацыях «тэатр жывога слова», індывідуальны — маладым акцёрам і спецыяльны прыз.**





У рамках конкурсу (13 красавіка) на сцэне сядзібы Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства выступілі групы з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага, Нарвы, Орлі, Гарадка, Шудзялава, Бабік і Залук. Маладыя людзі, маляўніча пераапранутыя, некаторыя ў касцюмах з традыцыйнымі беларускімі ўзорамі, горача прымалі на сябе ролі сваіх герояў. Дзеці і моладзь, сабраныя ў тэатральнай групе Гайнаўскага дома культуры і іх апякунка Вера Масайла, як звычайна прывезлі з сабою імпазантнае сцэнічнае афармленне, на якое складаецца шмат рэквізітаў. На гэты раз яны выкарысталі іх для аповеду пра бежанства і абрад прадзення ў пастаноўцы «Пакудзелле — успаміны бежанства» (другі прыз). Вера Масайла:

— Мы падрыхтавалі сцэнку пры нагодзе мінулагодняга стагоддзя бежанства ў глыб Расіі. Якраз у маёй сям'і, і ад маці, і ад бацькі са Старога Корніна і Збуча бабулі і дзядулі былі ў бежанстве ў Тамбоўскай і Растоўскай губернях. Адзін з дзядуляў мне пра гэта вельмі шмат расказваў, калі я была малая. Тады я не звяртала асаблівай увагі, але з цягам часу прыслухоўвалася таксама да таго, што пра бежанства расказвалі сваякі, якім у сваю чаргу расказалі бацькі, бабулі і дзядулі. І ўсё гэта склалася для мяне ў цэласць, таму бежанству прысвяціла я вершы і такі малы спектакль. На пачатку дзеці на самой справе не вельмі разумелі, аб чым яны расказваюць, што гэта такое бежанства, але калі я пачала ім тлумачыць, ім стала вельмі цікава, не толькі найстарэйшым у нашай групе — з пятага класа, але і тым з дзіцячага садка. Са сцэны яны самі расказваюць пра бежанства з хваляваннем, таму што добра ўжо разумеюць, аб чым гавораць.

Адзін з маладых членаў гайнаўскай групы Яцак Дружба, апрануты ў традыцыйную беларускую кашулю, у якой на сцэне выступае калектыў «Перапёлка»:

— Я суправаджаю спектакль на акардэоне, каб у ім не было перапынкаў, калі ніхто нічога не кажа. Падчас конкурсу я магу сустрэцца з сябрамі з іншых груп, якіх я сустрэў, калі я ўдзельнічаў у працы іншых груп, якія вядзе пані Вера.

Аб бежанстве падчас сёлетняга конкурсу школьных тэатральных калектываў распавялі яшчэ дзеці з калектыву «Антракт» з Бельска-Падляшскага, якім апякуецца Альжбета Фіёнік. Дарэчы, Бельск-Падляшскі на гэтым аглядзе быў вельмі моцна прадстаўлены. Цэлых пяць груп прыехала толькі з гэтага горада, у тым ліку з комплексу школ з дадатковым выкладаннем беларускай мовы з пастаноўкай «Андрэй за ўсіх мудрэй» (падрыхтоўка: Марта Ігнатовіч), з Пачатковай школы № 3 — «Зубная казка» (трэці прыз; падрыхтоўка: Аліна Сахарэвіч). Дзеці з бельскай «тройкі», падрыхтаваныя Аннай Фіёнік, паказалі дзве сцэнкі: «Цацачны баль» і «Як жэўжыкі лён часалі», які быў ўганараваны спецыяльным прызам. Анна Фіёнік:

— Дзеці вельмі перажываюць падрыхтоўку да такіх выступаў і, вядома ж, самі спектаклі, а таксама тое, як іншыя выступаюць. Конкурс з'яўляецца ўнікальнай магчымасцю пабачыць тэатральныя сцэнкі на беларускай мове і прыняць удзел у іх. Асабліва важна для дзяцей удзельнічаць у тэатралізаваных сцэнках, звязаных з абрадамі. У сцэнцы «Як жэўжыкі лён часалі» я выкарыстала ўспаміны Марыі Сцепанюк са Студзіводаў. Гэта была вельмі добрая ткачыха і аб ткацтве мне многае распавяла, з вялікім дарам слова.

Тэатральная група з пачатковай школы ў Орлі пад апекай Марыі Лемеш і Алы Зінкевіч прадставіла, у сваю чаргу, казку «Кароль часу» (другая ўзнагарода) пра лясных жывёл, якія хацелі змяніць час, ды аказалася, што ўсё мае свой уласны натуральны рытм. Марыя Лемеш, з другой апякункай школьнага тэатра пераклала казку з польскай на беларускую мову:

— У нашай сцэнцы выступаюць дзеці з першага і чацвёртага класаў. Такія малыя дзеці вельмі зацікаўлены ва ўдзеле ў тэатральных занятках. Большыя праблемы ў ходзе падрыхтоўкі мелі першакласнікі. У асноўным з вывучэннем тэксту на беларускай мове, таму што добра ёю яшчэ не валодаюць, але таксама справіліся на выдатна. Такія конкурсы вельмі патрэбныя і таму, што дзеці з вёскі едуць у горад: цешацца і вельмі перажываюць, што кудысьці паедуць. Яны могуць таксама паглядзець, як падрыхтаваліся іншыя дзеці, як яны выступаюць. І тое, якое атрымаюць месца — менш важнае. Дзякуючы казцы, якую мы падрыхтавалі, могуць даведацца, што ўсё ў жыцці павінна ісці сваім шляхам.

Альжбета Раманчук разам з дзецьмі з Непублічнай пачатковай школы ў Залуках прывезла сцэнку на падставе народнай казкі «Як мужык гусей дзяліў», а з групай вучняў Комплексу школ у Гарадку — пастаноўку «Ехалі казакі» з удзелам малады акцёраў у імпазантных казачых касцюмах:

— Спектакль «Ехалі казакі» падрыхтавалі я і Вераніка, наша валанцёрка з Беларусі. Гэта песня, якую я падзяліла на тэатральныя часткі. Дзякуючы Давіду Тамашэўскаму ў нас ёсць спецыяльныя, сапраўдныя касцюмы казакоў. Дзецям вельмі падабаецца выступаць, у той час як моладзь трэба крыху больш заахвочваць. Часцей за ўсё мы пішам ролі адпаведныя для вучняў. Такія выступы гэта не толькі ўдасканальванне жывога беларускага слова, але і навука, як сябе паводзіць. Вельмі часта самі старшакласнікі падказваюць, якія словы, сказы на беларускай мове варта выкарыстоўваць на сцэне, каб адпавядалі ім і іх героям. Вельмі прыемна, калі дзеці, асабліва моладзь, хочуць прыходзіць на тэатральныя заняткі на беларускай мове.

Выкладчыца беларускай мовы Таццяна Андрацкая не першы раз падрыхтавала да тэатральнага конкурсу дзяцей з Пачатковай школы ў Бабіках («Лясны спецназ, ці хто ўратуе зялёны лес») ды таксама дэбютантаў у гэтым аглядзе-конкурсе з Комплексу школ у Шудзялаве, у якіх выкананні можна было паглядзець народную беларускую байку «Коцік, пеўнік і лісіца» (вылучэнне).

— Для дзяцей, якія ўжо прымалі ўдзел у конкурсе, вельмі ён падабаецца, і рыхтуюцца ахвотна. Я думаю, што і ў дзяцей з Шудзялава пасля іх першага выступу будзе шмат прыемных успамінаў.

На тварах не толькі шудзялаўскіх дзяцей, асабліва самых маленькіх, відаць было, што гэтак, безумоўна, будзе. Дзеткі моцна перажывалі не толькі свой выступ, але з вялікім хваляваннем назіралі прэзентацыі калег. Некаторых дзяцей суправаджалі бацькі. Агнешка Порац з Храбустоўкі расказала «Ніве», чаму пасылае на тэатральныя заняткі адну з дзвюх дачок — Карнэлію, навучэнку Школьна-дашкольнага комплексу ў Нарве:

— Таму, што гэта дае задавальненне для дзяцей, файную гульню, і праз гэта яны вывучаюць беларускую мову. Мае дочкі маюць справу з беларускай мовай кожны дзень у сябе дома. Таму ім лягчэй вучыцца ў школе на занятках роднай мовы і на рэпетыцыях.

Дачка пані Агнешкі (апякунка: Ніна Абрамюк) мела шанц паказацца ў сцэнцы «Прадзеда карова пароды Монбельяр», за якую было прызначана першае месца, разам з міні-спектаклем калектыву «Антракт», а Карнэлія атрымала за ролю дачкі гаспадара адну з сямі індывідуальных узнагарод. Выступальнікаў ацэньвала камісія: інструктарка Дома культуры ў Бельску-Падляшскім Яніна Плютовіч, мовазнаўца з кафедры беларускай філалогіі Універсітэта Беластоку Аліна Філіновіч і намеснік старшыні БГКТ Васіль Сегень.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Тры пяцёркі ГРЫШЫ ГАРБУЗА на Агульнапольскай гістарычнай алімпіядзе



**Грыша Гарбуз з'яўляецца сёлетнім выпускніком сярэдняй школы ў Саколцы. Экзамен на атэстат сталасці будзе здаваць праз некалькі дзён, але ўжо ведае, што будзе працягваць навуку на любімым універсітэце ў Польшчы. Чаму? Таму, што стаў лаўрэатам нацыянальнай гістарычнай алімпіяды, у якой заняў пятае месца.**

Поспех Грышы Гарбуза велізарны, таму што алімпіяда з'яўляецца адным з самых складаных конкурсаў у сярэдняй школе. Пра яе прэстыж сведчыць той факт, што пераможцаў запрашаюць да сябе вучыцца самыя лепшыя ўніверсітэты ў краіне.

Трохдзённы фінал XLII Агульнапольскай гістарычнай алімпіяды прайшоў 1-4 красавіка ў Гданьску. Сёлета ў адборачным этапе прыняло ўдзел 3500 вучняў з усёй Польшчы. З гэтага ліку 99 асоб прайшлі ў фінал, у тым ліку дзевяць з Падляшскага ваяводства. Удзельнікі Алімпіяды правяралі свае веды ў васьмі дысцыплінах: археалогія, старажытнасць, сярэднявечча, эпоха новай гісторыі, гісторыя XIX стагоддзя, гісторыя XX стагоддзя, гісторыя парламентарызму ў Польшчы і гісторыя рэгіёна. Традыцыйна, змаганне пачалося з пісьмовай працы на адну з васьмі тэм, затым удзельнікаў чакаў аналіз першакрынічнага тэксту, а таксама вусныя элімінацыі. Грыша выбраў тэму Сярэднявечча, а дакладней — хрысціянізацыі цэнтральнай Еўропы ў IX-XIV стагоддзях. З кожнай з названай часткі вучань сакольскага ліцэя атрымаў вельмі добрыя ацэнкі. У агульным падліку Рыгор Гарбуз набраў 85 балаў са 100 магчымых.

Грыша Гарбуз гісторыяй пачаў цікавіцца дзякуючы свайму бацьку Андрэю Гарбузу, які дзейнічае ў Таварыстве па захаванні культурнай спадчыны Сакольшчыны „Sakolszczyna".

— Як помню, гісторыяй цікавіўся я, можна сказаць, заўсёды. У гэтым вялікая роля майго бацькі, які таксама цікавіцца мінуўшчынай, перш за ўсё, рэгіёна, — кажа ліцэіст. — Гісторыя ў нашай хаце заўсёды дзесьці там была.

Менавіта Грыша Гарбуз пра падзеі нашых зямель найбольш даведаўся з кніжак з хатняй паліцы ды ад сям'і. А размаўляючы з ім на літаратурнай беларускай мове, якую вывучыў з хаты, зразумелым з'яўляецца тое, што рэгіянальная адукацыя адыгрывае асаблівую ролю перш за ўсё ў шматкультурным рэгіёне. Хаця з аднаго боку сёння назіраем рост узаемазалежнасці, тэндэнцыі да гомагенізацыі і аднастайнасці, з другога боку вядуцца пошукі каранёў, спасабаў замацавання лакальнай тоеснасці. Рыгор пачаў шукаць таго, што адрозніць яго ад іншых. Гэтыя вартасці знаходзіць у рэгіяналізме, сваіх мясцовых каранях.

— Я думаю, што трэба гаварыць пра нашу гісторыю, — кажа ліцэіст. — У школе вучаць гісторыі дзяржавы, ці свету... але ніхто не вучыць гісторыі нашай малой бацькаўшчыны. А яна таксама вельмі цікавая.

Гістарычная алімпіяда з'яўляецца трэцяй, у якой Грыша атрымаў званне лаўрэата. У першым класе ён стаў пераможцам Алімпіяды рэлігійных ведаў аб праваслаўі, у другім класе атрымаў званне пераможцы алімпіяды па рускай мове.

Грыша Гарбуз падкрэслівае, што навука гісторыі не з'яўляецца нуднай. Даследаванне яе, удзел у падзеях і мерапрыемствах, ладжаных мясцовымі гістарычнымі арганізацыямі, вучыць творчага мыслення, і пры гэтым з'яўляецца навукай уражлівасці і выдатным падмуркам для развівання ўласных страсцей. Відавочна, калі праца праходзіць у запланаваны і ўпарадкаваны спосаб, разглядаючы шырэйшы кантэкст, можна зразумець прычыны і самастойна зрабіць высновы з некаторых падзей, што з'яўляецца значна больш каштоўным, чым тыя ж веды пра факты і даты.

Можна па-іншаму? Можна.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Вера і яе пеўнікі і курачкі



Набліжаецца Вялікдзень і гаспадыні клапоцяцца, каб на свята была адмысловая ежа на стале ды і як яго ўпрыгожыць. Вера Клімюк з вёскі Плянта ў Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) ведае ўжо, што будзе на стале і як яго ўпрыгожыць — зрабіла прыгожыя пеўнікі ды курачкі. Падабрала адпаведныя ніткі і зрабіла кручком. Спадабаліся яны яе сямейнікам, сваякам і знаёмым. І яна ім таксама зрабіла гэтыя хатнія птушкі.

У Веры на святочным стале будуць яшчэ сплеценае з вярбовых галінак гняздо і ў ім прыгожа памаляваныя яйкі. Спадарыня Вера зрабіла і яшчэ зробіць іншыя ўпрыгожанні на стол, між іншым, дзеля свайго любімага ўнучка, які прабывае ў яе і ходзіць у дзіцячы садок у Нараўцы. Ён, хаця яшчэ невялікі, але шмат у чым дапамагае сваёй бабулі. Ён умела карыстаецца, між іншым, пыласосам. Яго бацькі і бабуля купілі яму планшэт.

На Вялікдзень у Веры Клімюк будзе шмат гасцей і яна задаволеная. Яна ўдава, а вядома, які сумны бывае ўдовін лёс. Сёлета святкаванне будзе даўжэйшае на пару дзён. Месца ў прасторным бабуліным доме хопіць для ўсіх. Спадарыня Вера — жанчына з добрым характарам, жыццярадасная. Захапляецца ўсім тым, што прыгожае, што прываблівае. У вольны час ахвотна займаецца рукадзеллем, між іншым, вышыўкай.

Вышывальніца вельмі любіць кветкі. У цёплую пару года садзіць іх многа і дбайна даглядае. Яна ахвотна ўспамінае і расказвае пра свае маладыя дзявочыя гады. Нарадзілася ў невялікай вёсцы Бяндзюга (пражывае тут 30 чалавек) каля Сушчы ў Міхалоўскай гміне. Ціхая тут і прыгожая ваколіца ў даліне ракі Нарвы. Мабыць, прыгажосць наваколля паспрыяла таму, што ў маладосці Вера любіла спяваць беларускія, рускія і польскія песні. Спявала іх разам з сяброўкамі ў летнія суботнія вечары, седзячы на лавачцы. Песні былі для яе душэўнай асалодай. Яшчэ і зараз прыгадвае іх словы. Любіла хадзіць на танцы, якія ладзілі ў суседніх вёсках.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

# Пра Лысую гару ў Малочках

У «Ніве» (№ 16 ад 10.04.2016 г.) Аляксандр Вярбіцкі пабываў «каля Вулькі і Паўлінава». На заключэнне свайго артыкула піша, што археолагі здзіўляюцца, чаму месца ў Малочках, у якім раскапаны быў культавы аб'ект XI ст. атрымала ў навакольным народзе найменне Лысай гары.

Не ведаю, як там археолагі, але як для мяне дык нічога дзіўнага ў тым няма. «Лысыя горы» па ўсім славянскім свеце гэта месцы даўняга дахрысціянскага культу. Самыя слаўныя гэта Лысая гара ў Кіеве, Лысая або Крывая (яшчэ адна назва, якая абазначае месца культу) у Вільні і Лысая гара або Лысец у Польшчы пад Кельцамі, якую хрысціяне перайменавалі на Святы Крыж.

Лысыя горы былі месцамі, дзе ўшаноўвалі Багіню-Матку, таму ў народных паданнях на Лысую гару падаюцца ведзьмы. Пад хрысціянскім уплывам узнікла думка, што такая гара лысая таму, бо ўсё на яе паверхні выпальвае д'ябал, які спускаецца на шабаш ведзьмаў. Усё ж такі паводле Эвы Ліф-Пяркоўскай (Ewa Lif-Perkowska) найменне «лысая» значыць «белая», «ясная». Гэтая даследчыца сцвярджае таксама, што ў Польшчы культавыя месцы, названыя лысымі горамі, знаходзіліся амаль у кожным наваколлі, ледзь не ў кожнай вёсцы. Хрысціянства часта будавала на іх месцы цэрквы і капліцы, і чым старэйшая такая пабудова, тым больш упэўнена можна спадзявацца, што будзе яна прысвечаная Багародзіцы.

Такім чынам народ у наваколлі Малочкаў захаваў памяць аб сакральным прызначэнні Лысай гары менавіта перадаючы з пакалення ў пакаленне гэтую назву. А гэта ў сваю чаргу абазначае, што перадаецца памяць пра тое, што было тут тысячу гадоў таму.

Алег ЛАТЫШОНАК

# Рычард Бахрах у Крынках

Вучні крынскай гімназіі сустрэліся з нашчадкам жыдоўскіх выхадцаў з Крынак Рычардам Бахрахам. Аказваецца, прозвішча, якое для нашага вуха гучыць надта экзатычна, было вельмі папулярным у Крынках і Беластоку. Спадар Рычард прыбыў у крынскую школу ў кампаніі старшыні Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Ізраіль Люсі Лісоўскай.

Сустрэча пачалася з кароткай прэзентацыі жыдоўскай гісторыі Крынак. Я, як арганізатарка сустрэчы і яе вядучая, спадзявалася, што госць прывязе з сабой памяткі дзядоў, старыя здымкі, сямейныя гісторыі. І тут вялікае расчараванне. Спадар Рычард амаль нічога не ведае пра свае



Рычард Бахрах на крынскім могільніку

карані, няма ў яго ніякіх памятак ні фотаздымкаў. На такую тэму ў горадзе вялікай фабрыкі — вытворцы сухіх сняданкаў і прадуктаў харчавання хуткага прыгатавання „Келлогс" не гаварылася. Нарадзіўся ён у Мінесоце (ЗША) зараз пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. Яго сям'я з'ехала ў Амерыку ў пачатках XX стагоддзя. Былі яны жыхарамі Крынак, Беластока, Варшавы а нават Брэста. Спадар Рычард, так як і яго продкі, займаўся прыватным, невялікім бізнесам. Пенсія ў яго таксама невялікая, але хопіць на паездкі па ўсім свеце. Сямейнай радаслоўнай зацікавіўся нядаўна. Усё пачалося з мінулагодняга вяселля сваякоў у Лондане. Там адчуў патрэбу сувязі з продкамі. З Лондана ў Крынкі зусім недалёка. Рызыкнуў прыехаць, хаця крыху баяўся. Зусім не ведае, з чаго пачаць свае пошукі. Нехта яму падказаў, што варта наведаць архівы, але ён ніколі архівамі не карыстаўся. А калі даведаўся, што за інфармацыяй павінен адправіцца ў архівы Беларусі, зусім засумаваў.

На пытанне, ці хоча нешта важнае сказаць сабраным, прызнаўся:

— Вельмі шкадую, што я ніколі не размаўляў ні з бацькамі, ні з дзядамі. Зберагайце памяць сваіх продкаў, запісвайце сямейныя гісторыі, не паўтарайце маёй памылкі.

Пры нагодзе Люсі Лісоўская запрасіла вучняў і настаўнікаў у Беласток на бліжэйшыя мерапрыемствы, арганізаваныя Цэнтрам грамадзянскай адукацыі Польшча-Ізраіль. А на рукі дырэкцыі школы перадала кніжныя падарункі.

Пасля спадар Рычард адправіўся на шпацыр па Крынках. Прыехаў у месца, дзе ад стагоддзяў пражывалі яго продкі, пляменнікі, іх суседзі. А сёння няма каго распытаць, няма каму хаця б іх успомніць. Ніхто з прадстаўнікоў жыдоўскай нацыі ў Крынках не застаўся. Сярод адзінокіх каменных помнікаў на кіркуце шукаў магіл сям'і Бахрахаў. Чытаў надпісы на габрэйскай мове, якую вывучыў на працягу сямі гадоў пражывання ў ізраільскім кібуцы. На жаль, сваіх не знайшоў. Але гэта не перашкодзіла яму прачытаць малітву кадыш, якая была завяршэннем яго візіту ў калісь жыдоўскія Крынкі.

Іаанна ЧАБАН



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

Валерыя ЛЮЛЯК
ПШ у Міхалове

## Беларусь

Беларусь – мая радзіма,
Мая вялікая краіна.
Там нарадзілася я
І мая сям'я.
Там ад малога я спявала,
На Раджджаство калядавала,
На Вялікдзень яйкі збірала,
І ўсім радасць давала.
Беларусь – мая радзіма,
Мая вялікая краіна,
У маім сэрцы, заўсёды,
Будзеш ТЫ.

*Магутнае слова, ты, роднае слова!*
*Грымі ж над радзімай зямлёй:*
*Што родная мова, хоць бедная мова,*
*Мілей найбагатшай чужой!*
(Янка Купала)

Гэтымі словамі 4 сакавіка 2016 г. пачалася сустрэча ў Комплексе школ у Гарадку з беларускім паэтам Анатолем Парэмбскім пад лозунгам „Слова мае многа воблікаў”. У ходзе мерапрыемства была пастаўлена тэатральная пастаноўка пад загалоўкам „Суд” і праспявана песня дзіцячага калектыву „Казка” на словы спадара Анатоля.

### *Прысвячаю школьнаму гуртку „Казка” ў Гарадку з нагоды юбілею дзесяцігоддя*

*Дзе ж так спеўная „Казка”?*
*Толькі тут у Гарадку.*
*Як работная градка,*
*Як півонія ў садку*
*Вырасла над Супрасляй*
*Сярод шумных лясоў.*
*Дзе канцэрты не гаслі*
*Салаўіных галасоў,*
*Што душы дарагое,*
*А народ хоча знаць,*
*Новае ці старое*
*„Казка” здольная даць.*
*„Казка” сёння святкуе*
*Дзесяць год — юбілей.*
*Хай у жыцці ёй шанцуе*
*Люд свой цешыць далей.*
*„Казка” наша, казачка,*
*Зямлі Гарадоцкай цвет,*
*Благадарна славіцца*
*Мудрасцей тваіх пакет.*
*Ноты твае, нотачкі,*
*Роўны салаўіным,*
*Із ніякай групачкі*
*Не заменіш іннымі.*
*Твае, „Казка”, песенькі —*
*Знаныя суседзямі,*
*У падзяцы значаны*
*Бравамі сардэчнымі.*
*Колькі маладосці тут,*
*Яшчэ болей радасці,*
*Розныя ўзросты ідуць*
*На твае агляднасці.*
*Басі, Касі, Анечкі,*
*Васілёчкі польныя*
*Ноткамі камандаваць*
*Да перфекту здольныя.*
*Ты — як лёт свабодная,*
*Гледачам заметная,*
*Такая дарослая,*
*А дзесяцілетняя.*
*Юбілейных дзесяць год*
*Дата нештадзённая,*
*Юбілеі дальшыя*
*Хай будуць болей плённымі.*
*З труду Касі і Марыі*
*„Казка”стала знаная.*
*Юбілейных дзесяць год*
*З „Казкай” пані Марыя.*
*„Казка” наша, казачка,*
*Зямлі Гарадоцкай цвет,*
*Благадарна славіцца*
*Мудрасцей тваіх пакет.*
Анатоль Парэмбскі
Лістапад 2015 г.

Сам аўтар вельмі цікава расказваў пра сваю навуку і жыццёвыя цяжкасці, якія спазнаў. Вучні прачыталі і дэкламавалі вершы паэта з Валілаў. Некалькі вершаў паэт Анатоль Парэмбскі напісаў вучням гарадоцкай школы на дэкламатарскі конкурс. Вельмі дзякуем.

**Вучаніцы Гарадоцкай гімназіі Аляксандра Яроцкая, Эліза Матус, Дагмара Янушкевіч.**



Фота Мацея Халадоўскага

Міра ЛУКША

## Крушына

*Усё лета яна ў кветках!*
*Ломкая крушына!*
*На адной галіне*
*кветкі, завязі і плады.*
*Для пчол прынадная.*
*Дзе ліставадная,*
*а дзе вечназялёная*
*цэлыя гады.*
*За дзень пчолы*
*кілаграмаў з чатыры*
*мёду з крушыны чыстага*
*прынесці ў вулей*
*гатовы.*
*Мёд духмяны,*
*цёмна-малінавы,*
*буйназярністы.*
*Няспелыя чырвоныя,*
*спелыя чорныя*
*касцянкі сакавітыя*
*плады*
*ядуць дразды,*
*а кветкі вусені*
*лімонніц-матылькоў*
*наперабой.*
*Пад чорнаю карою*
*спод чырвоны.*
*Пафарбуеш:*
*жоўтым, бураковым,*
*карычневым, чорным*
*фіялетавым і зялёным.*
*А вугалем з крушыны*
*што хочаш намалюеш.*

## УВАГА КОНКУРС! № 17-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 1 мая 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

Грукоча грозна ўвышыні.
Раскаты чуюцца далёка.
Ой, дожджык спорны, секані!
Маланка бліскае ў аблоках.
Н.........
(М. Бусько)

**Адказ на загадкі № 13: мурашнік. Узнагароды, наклейкі з разнавіднымі матывамі, выйгралі Алеся Буткевіч, Якуб Сіроцкі з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Міхась Тапалянскі, Эва Анджэйчык з Нарвы, Іаанна Нікіцюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Наш час
## — ахоўнікі традыцыі






У гміне Орля рэалізуецца праект „Раўняць шанцы”, падтрымліваны фінансава Польска-Амерыканскім фондам свабоды, адміністраваны Польскім фондам дзяцей і моладзі. Праект пад назвай „Наш час — ахоўнікі традыцыі” рэалізуе Фонд EDM. У праекце ўдзельнічае дваццаць маладых чалавек з гміны Орля.

Вядучай тэмай праекта з'яўляюцца традыцыі і абрады нашага рэгіёна, звязаныя з калядаваннем, святам Грамніц, велікапоснымі песнямі, Вялікаднем і святам Купалы. Мэта праекта — набыць умеласць працы ў калектыве, навучыцца арганізаваць мерапрыемствы, а таксама паказаць прыгожасць нашай малой айчыны.

Першы этап майстар-класаў падзелены на дзве часткі. На філіяльных майстар-класах мы пазналі тайны працы з відэакамерай, даведаліся як выглядаюць паасобныя фільмавыя планы, кадры, як выкарыстоўваць святло, каб атрымаць запланаваны эфект. —ля тэарэтычных заняткаў мы рушылі з камерамі ў наваколле, каб на практыцы пакарыстацца новымі ведамі. У час заняткаў з Пятром Багацэвічам мы даведаліся як зрабіць калядную звязду. Потым, калі мы прыдбалі патрэбныя матэрыялы, мы самі зрабілі звязду. Эфекты нашай працы мы паказалі ў школе ў час бацькоўскага сходу.

Чарговы этап праекта гэта свята Грамніц. Мы хацелі даведацца як выконваць грамнічныя свечкі. Паехалі мы ў Сакі ў манастыр. Там мы набылі шмат ведаў і ўсё запісалі на камеру. На чарговай нашай сустрэчы мы самі выканалі грамнічныя свечкі і рашылі сабраць больш матэрыялаў. Падзеленыя на групы, мы апыталі асоб, якія нам расказалі пра свята Грамніц, да чаго калісьці выкарыстоўвалі грамнічныя свечкі. Потым з усіх сабраных матэрыялаў мы зрабілі фільмы, якія неўзабаве будзе можна глядзець на канале YouTube.

Аб чарговых этапах нашага праекта і іх выніках паведамім у наступных допісах.

**Прадстаўнікі групы**
**Вучаніцы II класа гімназіі**
**Інэз ДМІТРУК і Марлена КАЛІНА**

Патрыцыя САКАЛОЎСКАЯ
ПШ у Міхалове

## ВЯСНА

Прыгожа вясной на цалюткім свеце,
Вясна вітае нас шматколерным квеццем,
Зялёнай травой і птушак спевам,
Радасным сонцам на небе!

# Вершы Віктара Шведа



## Лянота і ахвота

— Часам агорне быццам
Вялікая ахвота,
Каб крышку павучыцца,
Пазбыўшыся лянoты.

І тады, дружа, што ты
Вычаўпаеш агулам?
— Чакаю, каб ахвота
Мне гэтая мінула.

## Птушыныя пёркі

Спытаў бабулю Ягорка:
— Чаму птушкі маюць пёркі?
— Пёркі ў іх з волі Божай,
Каб выглядалі прыгожа.

— Чаму ты, — унучак пытае, —
Пёрак прыгожых не маеш?
— Я і без пёрак птушыных
Кахаю цябе неспынна.



## Са школьнай святліцы ў Крынках

Выступвае «Заранка»

Таня вяртаецца дахаты з заняткаў у школьнай святліцы. Па дарозе гутарым пра бягучыя падзеі ў школе.

— Сёння настаўніца папрасіла нас праспяваць любую велікодную песню, — кажа Таня, удзельніца дзіцячага беларускага калектыву «Заранка».

— І што ты праспявала? — пытаю.

— «Ох ты весна, ты красна, а што ж ты нам прынясла».

— Гэта старая песня, запісаная ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя ў падсакольскіх шляхецкіх Гарчаках. Яна веснавая як і велікоднае свята, — паясняю.

— Але чаму ж ты не выбрала «Паву» альбо «Канапельку»? Яны ж тыпова велікодныя.

— Таму, што гэтая мне найбольш падабаецца, — адказвае Таня і пачынае спяваць усе куплеты вяснянкі.

— Ну, а што тады праспявалі іншыя?

— Матыльда з Каралінай праспявалі «Сэй гэлоў», а дзяўчыны з «Заранкі» Мілена і Оля таксама «Ох ты весна, ты красна». Марэк вельмі хацеў нешта праспяваць, але нічога такога не ведаў. Куба, з другога класа, прасіў, каб мы нешта па-польску праспявалі, бо па-беларуску ён не разумее.

— І што, праспявалі? — цікаўлюся.

— Не, Амэлька, аднакласніца Кубы, пераклала нашу песню на польскую мову.

— Амэлька ведае беларускую мову? Яна ж не спявае ў «Заранцы». Відаць, нехта ў хаце яе навучыў. А «Сэй гэлоў» таксама прасілі перакласці на польскую мову?

— Не, не хацелі, — кажа Таня. — Можа іх гэтая песня не зацікавіла?!

**Іаанна ЧАБАН**

# Польска-беларуская крыжаванка № 17-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 13:**

Трус, пост, кумір, эга, вярба, пляж, задзёр, раяль, Ала. Эмір, апля, сук, сувязь, мяжа, пір, горб, за, асёл, сто, Іра.

Узнагароды, гелевыя каляровыя аўтаручкі, выйгралі **Іван Карсункі, Габрыела Торка, Вольга Федарчук** з НШ свсв. КіМ у Беластоку, **Міхал Тапалянскі, Эва Анджэйчык** з Нарвы, **Караліна Барэчка, Аляксандр Чарнецкі** з Нараўкі, **Вікторыя Гаць** і **Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага, **Адрыян Данілюк** з Міхалова, **Дам'ян Іванюк, Тамаш Галёнка** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Сара Скаўронская** з Беластока. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Cyrk | | Marzenie / Pączek | | | |
| | Koncert / Piękno | Słuch | | Cypa / Usta | | | | | Cyganka / Moc | |
| | Dyrygent | | | | | | | | | |
| | Era / Re | Chór | | | | Noga | | | | |
| | | | Tkacz | | | | | Bierz | | |
| | | Bierz | | | Rynek | | | | | |
| | Namiot | | | | | | | | | |

**Яны рабілі «Ніву»**

# Вера Папова матэрыялізавала словы

Калі б сказалі назваць імя асобы, якая асацыюецца мне найбольш з падляшскай беларушчынай, я сказала б пра Веру Папову. З беpагамі поўную жаноцкасці, мацярынскасці, дабрыні, нават празмернай сціпласці. Працавітую і не надта гаваркую. Кампетэнтную, разумную, моцна адданую справе, у якую верыць, з нязломнымі перакананнямі, сваім поглядам на жыццё. Да канца ліпеня 1990 года працавала ў Беластоцкім графічным прадпрыемстве, набіраючы «Ніву», «Беларускія календары» і іншыя беларускія выданні. Літаральна матэрыялізавала родныя словы на кавалках гарачага свінцу, якія выплёўвала ў гранках яе аграмадная «друкавальная машынка» — лінатып. Набірала «Ніву» ад пачатку яе існавання, ад першага нумара, які выйшаў 4 красавіка 1956 г., а нават нулявы, пробны нумар — на 26 лютага, на першы заснавальніцкі з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Успамінала:

— Працавала я чатыры гады ў друкарні, набірала «Газету беластоцкую». У 1956 годзе, калі мела выходзіць «Ніва», паклікаў мяне да сябе дырэктар Беластоцкага паліграфічнага прадпрыемства Раман Бараноўскі і спытаў, ці я ведаю беларускую мову; ён, відаць, даведаўся, што ў савецкі час я вывучала гэтую мову ў Зачарлянах. Я адказала, што крыху ведаю. Ён прынёс мне нейкі беларускі тэкст, я яго памалу прачытала і ён заключыў, што я спраўлюся з новай задачай. Працы з «Нівай» было шмат. З рэдакцыі дастаўлялі мне машынапісы, я набірала гэтыя тэксты на лінатыпе. Бывала, што працавала да раніцы. Калі ўзнікалі ў мяне нейкія сумненні, я хадзіла або тэлефанавала ў рэдакцыю; з рэдакцыяй у мяне склалася добрае супрацоўніцтва. Працы з «Нівай» прысвяціла я трыццаць шэсць гадоў. Пасля майго адыходу на пенсію на лінатыпах коратка набіраў «Ніву» Янка Хлябіч, а неўзабаве прыйшла новая тэхніка — камп'ютары.

Другой такой магіканкай, якая працавала з «Нівай» (ад трэцяга нумара) была Валянціна Жэшка, карэктарка, якая стала хроснай матулькай Верынага сына Ігара. Валя таксама часцей пільнавала друку «Нівы» ў друкарні. Вера лічылася працаўніцай друкарні, бо так і было, але ўспрымалі яе як члена рэдакцыйнага калектыву (так пра «Ніву» галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі адзначаў у выходных даных тыднёвіка: «Рэдагуе калектыў»). Пераймалася ніўскімі турботамі як сваімі асабістымі.

— Вельмі імпульсіўная, шчырая, ніколі не магла дараваць нейкага недагляду, недакладнасці, — успамінае Яніна Чэрнякевіч, шматгадовая ніўская «Зорка». — У рукі першаму лінатыпісту траплялі ніўскія артыкулы.



Злева: Вера Валкавыцкая, Валянціна Жэшка, Вера Папова, Марыя Федарук

Міра ЛУКША

## Вера

Адліваецца слова ў свінцы, нават калі як матыль узлятае.
Рыбкай кладзецца ў далонь, стыне, ды пячэ яно далей.
Вера з роду Сохараў свае рудыя косы схіляе,
Бразгоча стары яе лінатып і паэзію чыста спявае.
Вера Павова, тыпографка з друкарскага тутэйшага роду.
Пахучыя фарбай, жалезівам агромныя залы завода
Аздобіць вялікімі кветкамі, што віцца будуць угору,
Успомніўшы яе тадышнюю, шаснаццацігадовую, кволую
Сцены нахіляцца разам, расліны лісты скінуць долу.
Часам, позняю ноччу, літанып той стары зноў прачнецца,
Быццам зноў «Ніву» друкуе; слова ў свінец не згарнецца.
Носіць Вера нясмела па горадзе ўсмешку сваю рабаватую,
Сабака побач ступае, таксама хворы і неспакойны.
У смецці тлеюць газеты, на слупах блекнуць плакаты.
Вера за сэрца хапаецца: каб не было зноў тут войнаў!

Вера была заўсёды нашым першым чытачом, і ёй далёка не абыякава было, якое ўражанне зробяць гэтыя матэрыялы на нашых чытачах. Была няпісаная дамова з Верай, што рэдакцыйныя тэксты маглі трапіць у друкарню з большай колькасцю паправак, чым патрабавала гэта праца ў друкарні. Гэтая яе мяккасць, цярпімасць да нашых машынапісаў была, мабыць, выклікана не толькі тым, што Вера добра ведала мову і тым, што добра ведала нас — гэта ж яна ў першыя дні і месяцы праседжвала разам з карэктарамі, журналістамі і галоўным рэдактарам цэлыя ночы... Вера была адной з нас, сяброўкай, якая 35 гадоў свайго жыцця аддала нашаму тыднёвіку.

Усяго Вера ў друкарні працавала 41 год. Пачынала 16-гадовай дзяўчынай. Паходзіць з вядомай сям'і друкароў Сохараў. Яе дзядзька, цётка і дваюрадныя браты былі працаўнікамі друкарні, а цяпер маюць друкарскія прадпрыемствы па ўсім ваяводстве. З падбеластоцкіх Зачарлянаў (дзе яе беларускую сям'ю працэрабіла польскае падполле) пераехала жыць у Беласток у 1946 годзе. Беларускую мову вывучала ў беластоцкай падставоўцы па вуліцы Кіеўскай. Дзядзька прывёў яе ў друкарню, дзе стала працаваць у пераплётнай майстэрні (інтралігаторні), і вучылася далей, пасля перайшла на лінатыпы. І на адзіным у Беластоку лінатыпе з лацінскім і кірылічным шрыфтамі набірала кожны тэкст на роднай мове. З радасцю над кожнай удачай ніўскай і кожнага сябры рэдакцыі паасобку. 41 гадоў на адным месцы. У цяжкіх умовах, пагражаючых хваробай (перш за ўсё сатурнізмам — «алавіцай»). Цягнула і далей яе ў друкарню, дзе правяла вялікую частку жыцця на працы поўнай пасіі і адданасці, дзе пакінула свае кветкі і сяброў, з якіх выкрышылася ўжо немалая гронка спецыялістаў па друку, яе сяброў і вучняў. І ў рэдакцыю «Нівы» магла заходзіць часцей, хоць ведаючы яе характар, цяжка было яе выцягнуць на святы і юбілеі, хоць жыве ў сваёй маленькай кватэрцы ад «Нівы» далёка «як берэтам кінуць». І так зайсці, каб бязмерна шчыра прынесці прыгожыя кветкі з агарода сваім любімым сябрам.

А нядаўна мы кветкі занеслі Веры Паповай — на магілку. Адышла наша сяброўка 25 сакавіка, пасля працяглай хваробы, на 83 годзе жыцця. Спытаўся мяне бацюшка са Свята-Мікалаеўскага прыхода: «А хто гэта быў за чалавек, што так людзі па ім заплакалі?». — «Беларуска, праваслаўная, маці, шчыры, добры, разумны, таленавіты чалавек, які матэрыялізаваў гарачае роднае слова».

**Міра ЛУКША**

**Яны рабілі «Ніву»**

# Адышоў Раман Сянько

**— Гэта вельмі сумная навіна, гэта быў выдатны фатограф. У мінулым годзе наша Таварыства сарганізавала выставу фотаздымкаў Рамана Сянько ў Саколі. Ён тут жыў шмат гадоў, — кажа Барбара Пахольская, старшыня Таварыства сяброў Саколя ў Міхалоўскай гміне. — Пражыў 84 гады. Шмат гадоў працаваў як фотарэпарцёр, пазней заснаваў сямейную фірму «Сянько і сын», якая гандлявала аўтамашынамі.**

Ён нарадзіўся на Сувальшчыне. Жыў у Рачках, Сейнах, Аўгустове — тут ён правёў гады дзяцінства і маладосці. Пасля матуры пасяліўся ў Элку, цікавіўся музыкай (іграў нават як піяніст у рэстаране), пазней фатаграфіяй. Апошняя паланіла яго асаблівым чынам. Ён хацеў быць фатографам, а пікам яго мараў была яго ўласная камера, якая магла б перанесці ягоныя мроі на чорна-белую плёнку. Старэйшы брат, што жыў у Познані, купіў яму прадмет яго маленняў — фотаапарат маркі «Зорка». Яго маэстра і настаўнікам быў непараўнальны ў сваёй прафесіі фатограф Эдвард Гартвіг. Сянько стаў жыць у Беластоку і ўсё шукаў свайго шляху, але праца пасля палітэхнікі і ў канструктарскім бюро не была пікам яго мар. Пастаянна бегаў па беластоцкіх Плянтах, дзе арганізаваны былі фестывалі і мерапрыемствы пад адкрытым небам. Фатаграфаваў, дакументаваў, запісваў гісторыю гэтых мімалётных момантаў. Яшчэ не ведаў, з якой мэтай. І вось аднойчы натрапіў на Багдана Грынявіцкага, вядомага рэдактара «Белaстоцкай газеты», якую чыталі ў нават самай маленькай вёсцы былога Беластоцкага ваяводства. Быў 1957 год. Адкрыліся перад ім вароты вядомай рэдакцыі. Паявіліся заказы на абслугу віп-персон, з гаспадарскімі візітамі наведваючымі Беласточчыну, важных і менш важных урачыстасцей, адкрывання новапабудаваных прамысловых прадпрыемстваў, грамадскіх будынкаў, юбілеяў ансамбляў... Знаёміўся з новым месцамі і новымі людзьмі. Непаседлівы фатограф прасядзеў таксама незлічоныя гадзіны ў фоталабараторыі. Трымаў нос на ветры, хапаў тэмы на ляту. І так сціплы фатограф з Беласточчыны трапіў у Цэнтральнае фатаграфічнае агенцтва. Стаў здымаць таксама людзей з першых старонак газет, па ўсёй краіне і свеце. Дакументаваў візіты Эдварда Герка, Язэпа Броз Ціта, у Маскве пахаванне Леаніда Брэжнева, а таксама гарачы час прэзідэнцкай выбарчай кампаніі ў 1989 годзе. Ездзіў у Францыю, Грузію, Арменію, Таджыкістан. Публікаваўся таксама перш за ўсё ў рэгіянальных газетах: «Беластоцкай газеце», «Кантрастах», «Ніве». Без здымкаў Рамана Сянько немагчыма было б адчуць клімат таго часу.



Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Раман Сянько (сядзіць)

— Многія з ягоных фатаграфій не знайшлі ласкі ў вачах тагачаснай цэнзуры. Часць яго здымкаў яна блакавала, — успамінае Б. Пахольская. — Сёння былі б гэта рарытэты, за якія біліся б газеты самых розных аптацый. Казаў: «Што б я ні рабіў, займаўся гэтым на сто працэнтаў, не прызнаваў паўмер».

Больш за 20 тысяч здымкаў з часу працы ў ЦФА Раман Сянько перадаў Дзяржаўнаму архіву ў Беластоку.

У «Ніве» захапляюць ягоныя здымкі не толькі «віпаў» і сур'ёзных падзей. Асабліва на старонках «Зоркі» ўвекавечыў ён жывую беластоцкую вёску і школу. **(лук)**

# Модлін

Не ўсе асабістыя вехавыя падзеі помняцца, асабліва ж тады, калі жыццёвы кругаварот грузіць у памяць усё новыя і новыя факты, размяркоўваныя па той памяці паводле больш або менш перспектыўных прыярытэтаў, спіхаючы старыну на больш або менш забытыя перыферыі. Прызыў здаваўся быць аграмадным бар'ерам, калі ён быў наперадзе, а калі аставаўся за плячыма, аблазіў са сваіх хвілінна рэзкіх колераў. Мае супрызыўнікі нешчасліва... Мае супрызыўнікі неяк заховалі ў памяці той знакавы эпізод, які здарыўся звыш паўвеку таму і рашылі адзначыць няспешны „залаты" юбілей. У тым жа самым месцы, паводле геаграфічных каардынат, бо паводле іншых вызначальнікаў тое месца значна змянілася. А месцам гэтым была крэпасць Модлін...

Цяпер у Модлін з Беластока можна даехаць непасрэдна аўтобусам, на тамашні аэравакзал. Але ў даўні час туды ехалася поездам, таму і цяпер арганізатары вызначылі ўспамінковы старт менавіта на чыгуначным вакзале. Таму давялося мне спачатку заехаць у Варшаву. На аўтобусе, каб увачавідкі пабачыць прагрэс будавання з Беластока ў сталіцу сучаснай аўтамагістралі. З Беластока яна ўжо пракладзена ў Яжэва, а з Варшавы ў Вышкаў, плюс да гэтага кальцавыя Замбрава і Астрові-Мазавецкай. Ад Яжэва ў межах Падляшскага ваяводства будаўнічыя работы значна прасунутыя, новая аўтамагістраль не ўсюды пракладваецца тым жа шляхам што і дасюлешняя, яна ў некаторых месцах адхіляецца ад ранейшай трасы каля кіламетра. Вядуцца аграмадныя землярыйныя работы, будуюцца новыя масты і віядукі, працуе процьма машын, перавальваюцца аграмадныя колькасці зямлі. А ў межах Мазавецкага ваяводства краявід крыху іншы, там работы толькі ўзялі старт. І відаць, што там новая дарога пойдзе па тым жа самым месцы, што і ранейшая. Між Астровіяй і Вышкавам высечана паласа сасновага лесу, паказваючы сцяну гонкіх сасновых стваловаў, быццам нейкія шчыкецін. Агульна камлі там яшчэ ў зямлі, але дзе-нідзе яны ўжо вывернуты навонкі даючы ўражанне нейкага катастрафічнага краявіду. Новая траса не абмінае трох распаложаных там перпендыкулярна вёсак і некаторыя сялібы ўжо апусцелыя чакаюць свайго скорага зносу...

Беластоцкі аўтобус спыняецца цяпер каля самюсенькай пражскай царквы, а адтуль рукою падаць на Усходні чыгуначны вакзал. Па варшаўскай Дыяметральнай лініі цяпер штогадзінна курсіруюць цягнікі паміж аэрадромамі Акэнце і Модлін...

У Модліне не быў я з часу прызыву, таму адчуваў я сябе быццам быў там першы раз. Нейкія агульныя кадры захаваліся ў памяці, але ніводнай дэталі. Нечаму дзівавацца — даўні прызыўны час быў надта інтэнсіўна запоўнены не надта рэфлексіўнымі заняткамі, таму з таго часу асталася ў памяці можа не белая, але ж надта шэрая пляма. Арганізатары сустрэчы спэўнілі праваднічку, яе расказы пра крэпасць былі вельмі займальнымі, але больш займальнымі паказаліся мне краявіды так прыроднага як і антрапагеннага вываду. Што і раз зрок прыцягвала пейзажная незвычайнасць месца.

Крэпасць Модлін пабудавана пры зліцці Віслы і Нарвы. Яна ў адным аспекце нагадвае нашу Белавежскую пушчу: каля змены яе прыроднага краявіду закруціліся не абарыгены, толькі прышэльцы з далейшых краін. Першымі зладзілі там умацаваны лагер шведы ў час свайго „патопу" ў 1655-1660 гадах. У 1807-1812 гадах французы па загадзе Напалеона збудавалі там рэдут, у якім іхняе войска баранілася перад рускімі з 5 лютага да 1 снежня 1813 года; да працы было прыцягнута звыш дзесяці тысяч мясцовых сялян. Пасля Лістападаўскага паўстання 1830-1831 гадоў расійскія ўлады рашылі разбудаваць крэпасць. Была пабудавана цытадэль, якая лічылася найдаўжэйшым будынкам у Еўропе — два з чвэрцю кіламетраў. Навокал яе была пабудавана сістэма фартоў у радыусе да дваццаці кіламетраў. Як важнай была гэтая крэпасць, якую расейцы ў 1834 годзе назвалі Новагеоргіеўскай, можа сведчыць артыкул у Энцыклапедычным слоўніку Брокхаўза і Эфрана: „Новогеоргиевская крепость (бывший Модлин) — Варшавской губернии и уезда, в 14 верстах ниже Варшавы, при слиянии Вислы с Буго-Наревом. Собственно крепость, служащая редутом обширному укрепленному лагерю, лежит на правом берегу Вислы и Буга, но предмостные укрепления обеспечивают сообщение с левыми берегами обеих рек. Крепость заложена Наполеоном; один из редутов до сих пор носит название „Наполеоновского". Настоящий свой вид крепость приняла при императоре Николае I, посетившем ее 17 раз. Тройной ряд стен крепости, широкие и глубокие рвы, высокие валы, уставленные огромными орудиями дают впечатление неприступности; для осады Новогеоргиевской крепости неприятелю потребовалось бы не менее 200 тысяч войска, тогда как для обороны ее достаточно 12 тысяч человек. Новогеоргиевская крепость соединена железной дорогой с Ивангородом и Варшавой". Сямнаццаць разоў пабываў там сам расійскі імператар Мікалай І!.. Модлінская крэпасць была ягонай зрэнкай у воку. Колькі людзей працавала пры яе разбудове ў канцы 1830-х гадоў дакладна невядома, невядомая таксама і затраты на яе. Вядома, што на пытанне нямецкага імператара пра менавіта затраты, цар Мікалай І адказаў, што іх маштаб ведае толькі Бог і начальнік інжынераў Варшаўскай ваеннай акругі генерал Іван Дэн, аднак абодва яны трымаюць сакрэт. Варта тут прывесці і іншы крапасны эпізод гэтага цара. Менавіта наведаў ён і будову Брэсцкай крэпасці. Там узяў у руку цэглу і спытаў аднаго з начальнікаў, з чаго тая цэгла зроблена.

— З гліны, — адказаў будаўнік.

— А мне здаецца, што з золата, такія тут вялікія затраты, — заўважыў імператар.

Модлінская крэпасць была не адзінай у межах і на акраінах тагачаснага Каралеўства Польскага. Былі ў той час пабудаваны крэпасці ў згаданым Брэсце, у Дэмбліне, Варшаве, Ломжы, Асаўцы, Гродне, Коўне... Расійская імперыя рыхтавалася да вялікай вайны.

Калі ўспыхнула Першая сусветная вайна гэтыя крэпасці, будаваныя такою дарагой цаною, не былі, у прынцыпе, выкарыстаны. Баранілася толькі Асавецкая крэпасць, дзе ў ходзе заўзятых баёў 6 жніўня 1915 года была прыменена хімічная зброя масавага знішчэння; роўна трыццаць гадоў пазней вырас атамны грыб над Хірасімай... Іншыя крэпасці, апрача Модліна, былі эвакуіраваны. Была б, мабыць, эвакуіравана і Новагеоргіеўская крэпасць, „сімвал расійскага панавання ў Польшчы", калі б не... бежанства; бежанцы занялі 115 тысяч таварных вагонаў. Расійскае кіраўніцтва адным [про]махам зладзіла дзве бяды. „Русские и еврейские беженцы, как саранча двигаются на восток, неся с собою панику, горе, нищету и болезни" — успамінаў адзін з расійскіх генералаў. Расійская слаба развітая камунікацыі былі перагружаны масавай эвакуацыяй цывільнага насельніцтва і гарнізон найбуйнейшай расійскай крэпасці, зрэнка ў воку цара Мікалая І, быў пакінуты царом Мікалаем ІІ на волю лёсу...

10 жніўня 1915 года немцы ўпершыню адкрылі агонь па Новагеоргіеўскай крэпасці, а ўжо дзесяць дзён пазней гэтая магутная цвярдыня з амаль дзевяностатысячным гарнізонам здалася ўдвая меншай групоўцы войск праціўніка. 20 жніўня здабычу аглядаў сам кайзер Вільгельм. У ходзе гэтай „маланкавай" абароны загінула каля трох тысяч расійскіх салдат, а звыш васьмідзесяці тысяч трапіла ў палон. У нямецкія рукі трапіла паўтары тысячы гармат і каля мільёна снарадаў для іх; у той час расійская артылерыя адчувала вострыы дэфіцыт амуніцыі...

Крэпасць лёгка здало яе камандаванне, але нечага яму дзівавацца. Гарматы і амуніцыя для іх былі, але не хапала вінтовак, а некаторыя салдаты прынасілі прысягу апранутыя ў неўстаўную форму. І складана ў такіх умовах, пасля японскай вайны і першай рэвалюцыі, гаварыць пра нейкі баявы дух...

Насупраць модлінскай цытадэлі, на левым беразе Нарвы, сама перад яе ўліццём у Віслу, захаваўся велічны будынак колішняга збожжавага склада. Значыць, захаваўся яго агульны корпус з разрушаным флігелем, што ўпіраўся ў само зліццё магутных рэк. Менавіта пасля Другой сусветнай вайны той апусцелы склад сталі зносіць, а цэглу ад яго браць на адбудову разбуранай Варшавы. Аднак у пару ўмяшаўся захавальнік даўніны і ўдалося прадухіліць яго поўны знос. У 1836 годзе быў пабудаваны да яго вісячы трохпралётны мост ад галоўнай цытадэлі крэпасці даўжынёй у 88 метраў. У 1888 годзе ў ходзе веснавой паводкі крыгаход па Вісле праўваўся ў вусце Нарвы супраць яе цячэння і сарваў той мост. Стыхія забрала не толькі мост, але і жыццё сарака салдат, якія яго ратавалі...

Цытадэль, той найдаўжэйшы еўрапейскі будынак, захавалася. Таўшчыня яе сцен не меншая метра. У асобных казарменных камерах кватаравалася па некалькі дзясяткаў салдат; у такіх умовах крыху пакватараваўся і я са сваімі саратнікамі... Дзесяцігоддзямі цытадэль была казармай — у пачатку расійскім, а пазней польскім салдатам шматлікіх часцей. Цягам апошніх дзесяцігоддзяў войска пастулова пакідала цытадэль і зараз яна спрыватызавана. Розныя аб'екты крэпасці ў розных руках і не выглядаюць яны надта прыцягальна. Мабыць яшчэ яе ўласнікі не надта ведаюць, у якім напрамку яе перабудоўваць. І не толькі ў час генерала Дэна яна патрабавала вялікіх капіталаўкладанняў — перад ёю і цяпер бадай не меншыя выклікі. Пакуль што ў цытадэлі гаспадарыць галоўным чынам Час. Разглядаецца яна і як будучы гатэль для новага цывільнага аэрадрома, але ж гэта і выдатны не толькі помнік даўніны. З яе Татарскай вежы відочная велічная панарама цікавага наваколля ўключна з Варшавай... З гэтай вежы цар Мікалай І любаваўся важнай часткай сваёй імперыі. Татарскай вежай названа яна па той прычыне, што ў ёй кватаравалі салдат мусульманскага веравызнання, галоўным чынам з паўночнага боку Каўказа.

Была цэтадэль і вялікай турмой, дзе трымалі розных мяцежнікаў, не толькі ўдзельнікаў польскага Студзеньскага паўстання, але і ўдзельнікаў матроскіх бунтаў часу першай расійскай рэвалюцыі 1905 года. Часам траплялі туды і зусім выпадковыя людзі, між іншым непісьменныя салдаты, якія несвядома падхапілі знойдзеную бунтаўнічую лістоўку, каб пасля закруціць у яе жменьку махоркі... У казематных аддзяленнях зараз толькі высокія сцены з маленькам акенцам наверсе, з дзвярмі і фортачкай побач іх, цераз якую падавалі зняволеным і ежу, і драўляну парашу...

Была згадка пра аэрадром. Пабудавалі яго палякі сама перад выбухам Другой сусветнай вайны, у якую карысталіся ім немцы. Пазней было там польскае вайсковае лётнішча, да 2000 года. Цяпер там другі, пасля Акэнця, цывільны аэрапорт Варшавы. Гадоў пару таму было многа шуму пра лётнішча для Беластока. Калі б такое збылося, мне можна было б вяртацца з юбілейнай сустрэчы нейкім „якам". Але давялося больш традыцыйна, поездам. Вельмі сучасный „пэсай" з Варшавы, якая зараз калясіць у Беласток па пабудаванай для сістэмы колішніх царскіх крэпасцей Прывіслінскай чыгунцы і па яе вецы ў форт Зэгжэ — ад Варшавы цераз Легіянова да Вялішава. У гэтай „пэсе" пасажыр не надта нават чуе, што едзе — не тое як у колішнім поездзе з рытмічным і энергічным пыхценнем паравоза...

Аляксандр ВЯРБІЦКІ






1 ☞ працяг

# Нязручная памяць...

Дырэктарка тэатра адзначыла:

— Мы разумеем, што відовішча фармуецца ў атмасферы другога спектакля, які адбываецца за сценамі нашага тэатра, і я думаю, што гэта не тычыцца толькі Беластока.

Пра супрацоўніцтва з Пятром Ратайчакам аб пастаноўцы «Белай сілы, чорнай памяці» гутарка вялася на працягу двух гадоў:

— Ужо напачатку Пётр Ратайчак падкрэсліў, што кнігу Концкага лічыў важным голасам у справе Польшчы, а не толькі Беластока. І ў гэтым кантэксце спектакль узнікаў ад самога пачатку.

Пасля прэм'еры Марцін Концкі ў гутарцы з журналістамі сцвярджаў:

— П'еса з'яўляецца працягам кнігі. Тое, што адбылося вакол яе і спектакля, з'яўляецца дапісваннем яе чарговага раздзела.

### Сімвалічнае адштурхванне

У спектаклі іграюць сем акцёраў. Кожны з іх іграе некалькі персанажаў. Такім чынам, гледачы сутыкаюцца з цэлым спектрам розных персанажаў з розных асяроддзяў. Ёсць м.інш. неанацыст, які, у кіслагумарыстычнай сцэне мусіць іграць у спектаклі «Скрыпач на даху», шукальнік, які займаецца адкрываннем забытай габрэйскай гісторыі горада, прафесарка па замалёўванні неанацысцкіх надпісаў у горадзе, пракурор, які палічыў свастыку азіяцкім сімвалам шчасця, ці гей — жыхар Беластока. Ёсць таксама шмат герояў — як сказаў Пётр Ратайчак — знакавых не толькі для Беластока: Прэзідэнт, Біскуп, Бізнесмен, Рэлігійная Дзяячка, Грамадская Дзяячка, Дэпутат-Нацыяналіст ці Ультрас-Заўзятар. Няцяжка прыкласці некаторых з гэтых персанажаў да канкрэтных людзей па імені — да тых, якія паяўляюцца ў кнізе Марціна Концкага. Тым не менш, у спектаклі гэта не мае вялікага значэння.

Гледачы сядзяць на лаўках з трох бакоў вялікай сцэны тэатра (не ў глядзельнай зале), «сам-насам» з персанажамі спектакля. Над галовамі персанажаў-акцёраў боўтаюцца ветракі і іх сілуэты адлюстроўваюцца на падлозе, абліцаванай плексігласам. На заднім плане ўсталяваны пусты пастамент, які з'яўляецца базай у сцэнах, між іншым, з замазваннем свастыкі грамадскай дзяячкай ці, прымаючымі іранічнае вымярэнне дыялогамі аб нежаданні збудаваць у Беластоку помнік Людвіку Заменгофу, якія цягнуцца дзесяцігоддзямі. Пачатковая сцэна як быццам перанесеная з вуліцы, а якая спасылаецца на падзеі з удзелам праціўнікаў п'есы, матыў з духамі продкаў, які адносіцца да сумленняў гледачоў, са светлавым знакам свастыкі нізка над галовамі акцёраў у канцы прадстаўлення, дзіўныя танцы, якімі час ад часу займаюцца героі, і нарэшце, сярод іншых, фінальная сцэна п'есы — сімвалічнае і неадназначнае заахвочванне гледачоў да агульнага «спіхвання» Беластока на мора — атрымаліся рэалізатарам тэатральнага праекта паспяхова з захаваннем іх жывых тэмпа-рытмаў, якія змяняюцца ў сваёй дынаміцы. Мабыць, крыху аднастайна атрымалася толькі сцэна шукальніка габрэйскіх слядоў у горадзе (Павел Пабісяк — гасцінна) і маналогу «апантанага» польскасцю ў кічаватым выданні аматара музыкі дыска-пола (Пётр Шэкоўскі). Тым не менш, акцёры без сумнення далі паказ акцёрскай ігры, без крышынкі сцэнічнага фальшу, які лёгка можа паявіцца ў драматургічным матэрыяле, створаным на аснове публіцыстыкі.

### Мы не ацаняем

Бернард Баня, увасабляючыся, сярод іншага, у ролі пракурора і неанацыста, запэўніваў яшчэ да прэм'еры:

— Мы не стаім у гэтым спектаклі ні за адным з бакоў. Мы не судзім, не ацэньваем. Даем гледачам магчымасць убачыць некаторыя механізмы, якія паказваюцца не аднабакова. Міхал Токай, іграючы, сярод іншага, статыста ў «Скрыпачы на даху», гея, індускага імігранта:

— Гэта даследаванне больш шырокага кантэксту, без пастаноўкі тэзісу, бясспрэчных адказаў.

На прэм'еры таксама былі героі кнігі Марціна Концкага. У тым ліку Тамаш Суліма, які мае справу з аднаўленнем памяці аб ахвярах «Бурага» і сумняваецца ў яго ўшанаванні як героя. Неўзабаве пасля прэм'еры напісаў на адным з інтэрнэтпарталаў: «Першы дыскамфорт адчуваў я мінаючы па дарозе ў тэатр чатыры паліцыйныя сукі ўсталяваныя як вароты ў п'есу. Пасадзілі мяне на сцэне з акцёрамі на нязручных седалах. Я адчуваў сябе як на рынгу, на якім мяне лупяць. Гэта быў як мюзікл ваюючых у танцы, асуджаных адзін на аднаго барцоў. Дзіўны старт, на самой справе дададзены «з ходу» (так!) і ў кантэксце апошніх падзей вакол тэатра. Калі б яго паставіць перад тэатрам, цалкам зацерлася б грань паміж акцёрамі і гледачамі, мастацтвам і жыццём. І без гэтага яна была ледзь заўважная».

Гісторык праф. Алег Латышонак пасля выхаду з тэатра адзначыў у размове з «Нівай»:

— Выдатны спектакль, але навошта лішні раз тут гаворыцца, што ахвярамі «Бурага» былі праваслаўныя, а не беларусы? Гэта была акцыя, накіраваная на беларусаў.

Напэўна, выходзячы са спектакля, не дасца сказаць словамі аднаго з яго герояў:

— Наш горад як сонца. Як узыходзячае сонца, якое сваімі прамянямі асвятляе ўсё і ўсіх.

У той час калі ў Драматычным працягвалася прэм'ера, у клубе Беластоцкай палітэхнікі «Гвінт» з нагоды юбілею ОНР выступаў гурт «Nordica», вядомы творамі, якія спрыяюць падбухторванню да дыскрымінацыі і нянавісці. Рэктар палітэхнікі, калі пачуў ад журналістаў, што канцэрт будзе якраз такой каманды, выказаў... шкадаванне.

Квіткі на прэм'ерны і адзін пасляпрэм'ерны спектакль разышліся поўнасцю (сцэна-аўдыторыя змяшчае каля 150 чалавек). Найбліжэйшая пастаноўка — 6 мая.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА




Напэўна, многія выданні зазнавалі падчас свайго існавання розныя перыяды папулярнасці. Некаторыя з'яўляліся як выбух, але жыццё іх было нядоўгім і яны хутка згасалі, не пакінуўшы нават большменш трывалай памяці пра сябе. Некаторыя, займеўшы сваю нішу, жывуць спакойным жыццём без яскравых узрушэнняў. Ну а некаторыя, існуючы даволі доўгі час, перажывалі як вялікія ўзлёты, так і глыбокія падзенні. Адным з прыкладаў такіх выданняў у беларускай медыя-прасторы варта прыгадаць газету „Літаратура і мастацтва" („ЛіМ").

„ЛіМ" узнік у Беларусі яшчэ за савецкім часам. Акурат падчас кіравання Сталіна, і меў на мэце „быць вострай зброяй барацьбы за генеральную лінію партыі ў галіне літаратуры і мастацтва".

Наступныя гады існавання газеты, калі не лічыць Другой сусветнай вайны, былі даволі спакойныя. У ёй друкаваліся паэты, пісьменнікі, літаратурныя крытыкі, але па вялікім рахунку, газета не была заўважнай нават у той сціплай савецкай медыя-прасторы. Але ўсё змянілася падчас перабудовы. Менавіта напрыканцы 80-х — пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя „ЛіМ" стаў ледзь не самай цікавай і чытанай газетай людзей, якія staміліся ад савецкага падману і шукалі сапраўды вострай палемікі, выяўлення схаванай раней праўды, сапраўднага паказу рэалій усіх бакоў жыцця. І „ЛіМ" наталяў гэтую прагу. Таму менавіта ён стаў у тыя часы газетай № 1 у Беларусі.

Але тое, што было 20-30 гадоў таму, ужо не тычыцца цяперашняга „ЛіМа". Цяпер ён хоць і абазначае сябе як газета творчай інтэлігенцыі, неяк не атаясамляецца з той жа Святланай Алексіевіч, Рыгорам Барадуліным, Нілам Гілевічам і шмат якімі іншымі нашымі літаратарамі. „Польскае радыё", напрыклад, бачыць прычыну ў тым, што заснавальнікамі выдання з'яўляюцца Міністэрства інфармацыі Беларусі, а таксама праўладны Саюз пісьменнікаў на чале з генералам Мікалаем Чаргінцом. Згоднікцім і малазаўважным выданнем лічыць яго беларускі мовазнаўца Зміцер Саўка.

Магчыма, усведамляючы сваю малазаўважнасць і малазнанчасць, рэдакцыя „ЛіМа" не асабліва цікавіцца прывабнасцю і сайта газеты, што месціцца па адрасе **http://www.main.lim.by**. Старонка выдання ў інтэрнэце выглядае даволі бляkла для выдання, якое фінансуецца з беларускага дзяржбюджэту, а значыць, мае неблагія грошы. Канешне, сайт абнаўляецца рэгулярна, але гэта не значыць, што ён адпавядае патрабаванням сучаснасці. Так, там няма анiякай мультымедыйнасці, а размешчаныя фотаздымкі маюць з большага партрэтны варыянт і ніяк не адлюстроўваюць зместу таго ці іншага тэксту.

На сайце мы не знойдзем таксама агульнай прэзентацыі выдання. Магчыма, рэдакцыя не бачыць сэнсу знаёміць новых наведвальнікаў свайго сайта з кірункам і палітыкай газеты. Цікава, што выходныя дадзеныя, размешчаныя ў раздзеле „Кантакты", змяшчаюць адрас у інтэрнэце не выдання, а выдавецкага дома „Звязда", якому „ЛіМ" належыць.

Рубрыка „Блогі", выйсце на якую месціцца ўверсе цікава выяўлення, трэба было б перайменаваць „Блог Марыны Весялухі", бо іншыя з тых блогаў ужо не існуюць.

З усяго вышэйпададзенага застаецца зрабіць сумную выснову — „ЛіМа" ўжо няма, застаўся толькі яго бляклы цень.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з Календара

Пісьменнік, які вырас на "Нашай ніве"



## 130 гадоў з дня нараджэння Змітрака Бядулі

Беларускі пісьменнік Змітрок Бядуля (сапраўднае прозвішча Самуіл Плаўнік) нарадзіўся 23 красавіка 1886 г. у мястэчку Пасадзец (Лагойскі раён). Паходзіў з небагатай габрэйскай сям'і. Бацька яго быў арандатарам, а зімой працаваў на лесанарыхтоўках. Часам ён займаўся дробным гандлем, любіў музыку — іграў на скрыпцы. Дзед, адзіны ў мястэчку каваль і меднік, меў уласную бібліятэку. Самуілу з самага дзяцінства давялося дапамагаць па хаце і па гаспадарцы сваёй вялікай сям'і. На здольнасці і інтарэсы хлопчыка паўплываў бацька, які чытаў сваім дзецям кнігі. Будучы беларускі пісьменнік вучыўся ў пачатковай яўрэйскай школе — хедары, а пасля ў школе рабінаў ешыбоце, якой не скончыў. Але добра ведаў іўрыт, ідыш, нямецкую, беларускую, рускую і крыху польскую мовы. Нейкі час працаваў хатнім настаўнікам іўрыту, потым канторшчыкам на лесасрапрацоўках.

У дзяцінстве Плаўнік пісаў на старажытнагабрэйскай мове, потым — па-руску. Але беларуская мова і культура ўсё роўна ўрываліся ў яго творы. У 1909 г. у рукі Змітрака трапіла беларускамоўная газета „Наша ніва", якая карэнным чынам паўплывала на яго светапогляд. У сярэдзіне 1910 г. Бядуля аддаў у рэдакцыю газет свае вершы, але яны не былі апублікаваны. Магчыма таму, што былі яшчэ „няспелымі".

У 1912 г. Самуіл быў запрошаны ў Вільню на сталую працу ў беларускія культурныя арганізацыі. Працаваў у рэдакцыі „Нашай нівы" разам з Янкам Купалам. Апавяданні, напісаныя Змітраком Бядулем у тыя гады, сталі класікай беларускай літаратуры. Летам 1915 г. з Вільні вярнуўся ў Пасадзец, але калі фронт наблізіўся да роднай вёскі літаратара, то сям'я яго была змушана ратавацца ад пагромаў. Бядуля пераехаў у Мінск, дзе працаваў у Беларускім таварыстве дапамогі пацярпелым ад вайны. Супрацоўнічаў з газетай „Беларускі шлях".

Пасля прыходу савецкай улады некалькі год працаваў у газеце „Савецкая Беларусь", іншых газетах, быў рэдактарам дзіцячага часопіса „Зорка", грамадска-палітычнага і літаратурнага часопіса „Беларускае жыццё". У 1926 г. пачаў працаваць у Інбелкульце, быў першым рэдактарам краязнаўча-этнаграфічнага часопіса „Наш край". Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне „Маладняк", пасля — ва „Узвышша".

У пачатку Другой сусветнай вайны пакінуў Беларусь. Памёр 3 лістапада 1941 г. ад інфаркту ў эвакуацыі каля Уральска (Казахстан), дзе і быў пахаваны. Бядулю хаваў віцебскі коласаўскі тэатр, які ў гэты час гастраляваў ва Уральску. Акцёры над трунай чыталі творы пісьменніка.

У сваіх творах Бядуля адлюстраваў цяжкую долю працоўных. У скарбонку беларускай нацыянальнай літаратуры ўвайшлі яго апавяданні „Пяць лыжак заціркі", „Малады дрываскі", „На каляды к сыну", „Вялікодныя яйкі", „Летапісцы". У 1923 г. яны ўвайшлі ў першую кнігу „На зачараваных гонях". Потым было яшчэ каля 20 прыжыццёвых зборнікаў. Шырокую вядомасць набыла аповесць „Салавей". У канцы 1930 гг. Змітрок Бядуля напісаў дзве аўтабіяграфічныя аповесці „Набліжэнне" і „У дрымучых лясах". Апошнім яго творам стала аповесць-казка „Сярэбраная табакерка" (1940). Упершыню яна цалкам была надрукавана толькі ў 1953 г. У 1951-1953 гг. выйшаў збор твораў Змітрака Бядулі ў чатырох, у 1985-1989 — у пяці тамах.

На радзіме пісьменніка ў вёсцы Памсадзец створаны музей. Памятная экспазіцыя ёсць і ва Уральску. А ў сталіцы Беларусі Мінску ёсць плошча і вуліца імя Змітрака Бядулі.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Найлепшыя скульптары



**1 красавіка гэтага года ў святліцы ў Старым Ляўкове арганізавалі X Адкрыты скульптурны конкурс. Удзельнікі — усе яны 37 асоб: дзеці, моладзь і дарослыя былі з Нараўчанскай гміны — згодна з тэмай сёлетняга юбілейнага конкурсу выконвалі гліняныя падсвечнікі.**

І так, у катэгорыі дзяцей дашкольнага ўзросту першае месца заняў Барташ Семяняка, другое Антаніна Карпюк ды трэцяе раўнапраўнае месца Пётр Несцярук і Ігар Харашэўскі. Вылучэнні атрымалі Ізабэля Мілько і Шыман Харашэўскі.

У катэгорыі вучняў I-III класаў пачатковай школы першае раўнапраўнае месца заваявалі Алівія Харкевіч і Лукаш Янцэвіч, другое раўнапраўнае месца занялі Клаўдзія Казлоўская і Павел Барэчка ды трэцяе раўнапраўнае месца — Габрыеля Стоцкая і Габрыеля Краснапольская. Вылучэнні атрымалі Кінга Калэцкая, Дар'я Радзіванюк, Кацярына Вашчэнка і Зузанна Самоцік.

Сярод вучняў IV-VI класаў пачатковай школы найлепш сябе адрэкамендавалі Дар'я Баканач і Ніна Марціновіч (занялі яны раўнапраўнае першае месца), Дамініка Сухадола і Шыман Патонец (занялі другое месца) ды Караліна Кандрат і Вікторыя Кандрат (трэцяе месца). Вылучэнні атрымалі Юльля Кардаш і Янка Семяняка.

У катэгорыі гімназістаў раўнапраўнае першае месца занялі Вікторыя Патонец і Кшыштаф Бірыцкі, другое месца Алівія Кузьма і трэцяе месца Моніка Савіцкая.

У групе дарослых асоб узнагароды журы прызначыла Тэрэсе Саковіч (I месца), Паўліне Драўноўскай (II месца) і Ніне Харашэўскай (III месца).

Пры падрыхтоўцы і ў ходзе конкурсу шмат папрацавалі Вольга Максімюк (інструктар мастацтва), Аліна Барташук (бібліятэкарка) і Крысціна Паскробка (кіраўнічка святліцы). Дыпломы і рэчавыя ўзнагароды ўручыла дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галена-Марыёля Рээнт. Як і ў мінулыя гады, на мерапрыемства і ў склад журы быў запрошаны ніжэйпадпісаны супрацоўнік „Нівы”.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Каму паскардзіцца

У аўторак, 12 красавіка, у восем вечара, калі мы з дачкою размаўлялі па мабільніку, сувязь нечакана абарвалася. Паспрабаваў я аднавіць сувязь. Безвынікова. Праз некалькі мінут дачка патэлефанавала на стацыянарны тэлефон і выявіла мне прычыну аварыі. У нашу размову нечакана ўключыўся беларускі апаратар. У гэтым месцы хачу адзначыць, што пры польска-беларускай мяжы ў Пяшчатцы знаходзіцца перадатчык мабільнай сувязі вялікай моцы, які радыусам дзеяння ахопліве прыгранічную зону, таксама і на польскім баку. У такім выпадку неабходна свой мабільнік пераключыць на польскага апаратара, інакш кошт размовы палічыць беларускі апаратар па замежных стаўках. Такім чынам з майго мабільнага рахунку «выпарыла» ў гэты дзень 16,41 зл.

Не быў гэта адзіны выпадак. Здаралася і раней, што з майго рахунку прападалі грошы ў карысць беларускага апаратара, але я аб тым не ведаў, паколькі не вельмі разбіраюся ў такіх справах. Хачу затым перасцерагчы чытачоў, калі прыйдзецца ім пабываць у Чаромсе і карыстацца мабільнікам: зважайце, каб пры набіранні нумара не высветліўся надпіс «Вітай на Беларусі”, бо гэта значыць, што ўключылася Пяшчатка. Хуценька тады выключайце мабільнік, бо непатрэбна страціце лішнія грошы, якіх ніхто не верне. Каму на гэта паскардзіцца?

**Уладзімір СІДАРУК**

## Чаромхаўскія інвестыцыі

Чаромхаўскі самаўрад паспяхова рэалізуе прынятыя інвестыцыйныя задачы. У мінулым годзе, напрыклад, гміна выдала на гэтую мэту 7 076 661,48 зл. У выніку была перабудавана гмінная дарога Ставішчы — Полаўцы, апрацоўваецца тэхнічна-праектная дакументацыя на перабудову дарогі з Чаромхі-Сяла ў Чаромху-Станцыю, даручана выкананне дакументацыі для нізкаэмісійнай гаспадаркі, папраўлена трансгранічная сістэма аховы асяроддзя ў Чаромсе і Высокім шляхам пашырэння каналізацыйнай інфраструктуры, даручана выкананне праектнай дакументацыі ачышчальні сцёкаў па вуліцы Фабрычнай і добраўпарадкаванне наваколля, закупка аўтамашыны для вывазкі нечыстотаў, закупка сельскагаспадарчага трактара з прычэпай для перавозу вялікагабарытных адпадаў з тэрыторыі гміны, памечаны роваровыя трасы паўночна-ўсходняй часткі Падляшша для агратурыстычных мэт, закупка выратавальнага абсталявання для добраахвотнай пажарнай каманды ў чаромхаўскім пасёлку (бензапіла і супрацьдымны апарат).

Як паінфармаваў войт Чаромхаўскай гміны Міхал Врублеўскі, сёлетні бюджэт, пасля карэктуры, складае суму 16 709 968,03 зл. на баку прыбыткаў і 17 490 663,88 зл. на баку выдаткаў. На інвестыцыі прызначаецца 6 967 491 зл. Як канстатаваў кіраўнік самаўрада, сёлета не прадбачваецца рэалізацыя інвестыцыйных задач, паколькі брак афармленай тэхнічнай дакументацыі. Затым асноўнай мэтай будзе афармленне такой дакументацыі на тры задачы: пашырэнне каналізацыйнай сеткі па вуліцы 1 Мая, затым прылеглых вулачак, таксама пабудова каналізацыі ў сяле Чаромха, асфальтаванне вуліцы Вісьнёвай і прылеглых вулачак: Ланковай, Длугай, Мёдавай, Вейскай і перабудова гміннай дарогі з сяла Чаромхі ў напрамку Кузавы, затым пракладка асфальтавага палатна і спалучэнне з вуліцай Аградовай і Дзібуа. Пасля рэалізацыі планаваных інвестыцый, на маю думку, від Чаромхі-Стацыі значна паправіцца і паўплывае на большы паток турыстаў у прыгранічныя сёлы.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. малое акно = 2 _ 6 _ 12 _ 27 _ 11 _ 10 _;
2. найлепшая абарона = 15 _ 5 _ 7 _ 24 _ 25 _;
3. самае глыбокае возера у Беларусі = 16 _ 17 _ 18 _ 19 _ 20 _ 21 _;
4. унутраная частка плечавога выгібу з... араматам = 22 _ 23 _ 13 _ 14 _;
5. штраф за неабавязковасць = 9 _ 29 _ 28 _ 8 _;
6. равок, у які цячэ папулярная песенная вада = 26 _ 3 _ 4 _ 1 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | | | | | | | |
| | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 14 нумара**

Паляк, Рона, аргенцінец, батыскаф, лад, ксі, Ціроль, прыяцель, хвост.

Рашэнне: **Ад ляносці не баляць косці**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Ганне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 24.04 — 30.04

**(22.03. — 20.04.)** Многа работы, але яшчэ больш прыемнасці. Слухай голасу сэрца. Можаш сустрэць вельмі блізкую сабе душу. 25.04. трымайся правіл, бо можа для цябе гэта кепска кончыцца. Маеш сілу пераманіць усё да чаго дакранешся. Тваімі эмоцыямі кіруюць зоркі тыя, што12 гадоў таму. І ў тваім любоўным жыцці будуць нейкія вярtанні.

**(21.04. — 21.05.)** Абавязкова зайграй у латарэю, можаш таксама зрабіць нейкі залаты інтарэс. Калі шукаеш новую працу, пройдзеш праз кваліфікацыйнае сіта, а Пасля 28.04. дамову будзеш меці ужо ў кішэні. І не шкадуй сабе добрага адпачынку. Даведаешся, як далёка ты зайшоў і колькі яшчэ перад табою.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш адчуваць сябе молада, маладзей чым па метрыцы. Проста распусціш крылы. Варта цяпер табе заняцца фізічным высілкам. 29.04. на цябе звaліцца шмат абавязкаў, якія цябе проста прыгнятуць. Штораз больш нялёгкіх задач для вырашэння. Будзеш прымушаны справіцца з недастаткамі свайго пачуццёвага жыцця. Медытуй.

**(23.06. — 23.07.)** Час перастаць азірацца ў мінулае, жыць успамінамі. Глядзі ўперад, бо толькі тады можна штосьці змяніць. Змены паявяцца, але негвалтоўныя. Найлепшы метад — малых крокаў. 25.04. адкладзі падпісванне дамоў і дакументаў на лепшы час.

**(24.07. — 23.08.)** Можаш з поспехам паказваць усе свае перавагі. Калі штосьці плануеш ці робіш — рабі гэта перфектыўна. Сярод сяброў трымайся тых, якія не кажуць, што няма чаго старацца сарваць яблык з верхавіны дрэва. Калі доўга хварэеш, будзе табе лягчэй, але не пакідай прымаць лякарствы. 25-30.04. асцерагайся непрадуманых дзеянняў.

**(24.08. — 23.09.)** Знайдзі хвіліну для сябе самога, адпачні, пачытай. 25.04. будзе схільваць да хуткіх, не да канца прадуманых рашэнняў; не дай сябе паганяць! Ад 29.04. захавай вялікую асцярожнасць, асабліва пры незнаёмых. Цяпер пачацца твой год! Будуць у ім цудоўныя нагоды аж да 9 верасня. Спяшайся з рэалізацыяй мараў. Засяродзься і дойдзеш да мэты!

**(24.09. — 23.10.)** Будзь адкрыты на новыя, цікавыя прапановы. Шалі з кастрычніка няхай сходзяць да лекара, абследуюцца. Выконвай усе свае абяцанні, толькі тады ўдасца табе пакарыстацца шанцамі, якія планета дабрабыту сыпне табе пад ногі.

**(24.10. — 22.11.)** Твая прадпрымальнасць прынясе плён. Цяпер можаш зарэгістраваць сваю фірму. 28.04. не крытыкуй старэйшых асоб з сям'і. Будзеш сабою — жарсным, эмацыйным Скарпіёнам. Пазнаеш свае ліміты — прафесійныя, фінансавыя, пачуццёвыя.

**(23.11. — 22.12.)** 24-30.04. не дай сябе ўгаварыць на рызыкоўную прыгоду. 25.04. хтосьці можа патрактаваць цябе нявеліва. Дбай аб сваю форму, залежна ад узросту. Марс намовіць цябе на дзеянні. Калі не хочаш страт, мусіш быць сумленным у адносінах да сябе самога. Сяброўства можа перараджацца ў каханне.

**(23.12. — 20.01.)** Можаш падумаць аб працы на ўласны рахунак. Дбай аб свае косці і суставы. Зрабі ультрагукавое абследаванне. 25.04. будзеш раздражнёны, што можа кепска паўплываць на адносіны ў сям'і. Ты яшчэ ў моцы зорак, адказных за твае паразы з мінулых гадоў. Цяпер іх уплыў слабне, але мусіш абдумаць, чаго прагнеш, кім ты ёсць і што можаш прысвяціць для таго, каб дайсці да мэты.

**(21.01. — 19.02.)** Можаш цяпер стаць ратункам для фірмы. Нейкія ранейшыя інвестыцыі (аб якіх ты ўжо можа і забыўся), вернуцца з надплатай, або даўжнік верне ўвесь доўг. 28.04. будзеш схільны да непрадуманых асабістых рашэнняў. Перад табою ўсё, што любіш — новыя нагоды, знаёмствы, шанцы. Плануй, рэалізуй.

**(20.02. — 21.03.)** Можаш цяпер шмат зарабіць. Чакае цябе нагода афарміць танна добрую экскурсію. 23-30.04. не вер ва ўсе добрыя намеры. 23-30.04. пільнуйся, каб твой флірт не быў палічаны за штосьці большае. 25.04. лепш не гавары гучна таго, што думаеш аб іншых. 29.04. уцешышся, убачыўшы, як твае ашчаднасці растуць, і адчуеш сябе бяспечным. Твае сны будуць прароцкімі, задумы проста незямныя, але будзеш лёгкай здабычай для розных манюк, інтрыганаў і паляўнічых на пасагі. Трымай вочы шырока адкрытыя, думай разумна.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва — тыднёвік беларусаў у Польшчы

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.



# У палескай глыбінцы (40)

Ад вякоў мы кіраваліся ў Пінск, на поўнач, разам з цячэннем ракі Гарынь, — кажа Рыгор Яцута. — Таму не было вялікіх кантактаў з поўднем. З Дубровіцай раздзяляла нас непраходнае балота. Дабірацца туды насупраць плыні па рацэ было цяжка, ды хто нармальны схоча рухацца да заду, насупраць правоў прыроды.

Так было ад старажытных часоў ажно да другой паловы васямнаццатага стагоддзя, калі збудавалі тут першую дарогу па сушы, што ішла з Пінска ў Сарны і на Валынь. Па сённяшні дзень гэты гістарычны шлях у народзе называюць «літоўкай».

— А колькі кіламетраў будзе з Высоцка ў Пінск? — пытаю.

— Недзе, 90.

У адчуванні майго субяседніка 90 кіламетраў дарогі па вадзе явілася палескай нормай. Ды сам візіт у Пінск, дзе больш карысна можна было прадаць і набыць тавары, быў апраўданы ў эканамічным сэнсе. Не менш вабіла культурная аўра горада-цэнтра. У Пінск кіраваліся па навукі, на рэлігійныя фэсты і святы, там афармлялі судовыя справы або наведвалі сваякоў у турме.

Лёгкасць, з якой людзі перасякалі прастору, не паказваючы стомы, здавалася амаль жывёльнай! У народзе захавалася памяць пра «звышмабільнасць» прыгожага полу:

— Старажылы гаварылі, — пачаў мой субяседнік, — што мясцовыя жанчыны раніцай распальвалі ў печы і адпраўляліся ў Пінск на рынак. І яны паспявалі вярнуцца дамоў, каб даварыць ежу і паставіць на стол...

— Апошнюю сенсацыю Рыгор Яцута падаў з недаверам і гучнай усмешкай.

* * *

Высоцкі музей — не проста музейустанова з экспанатамі. Тут як нідзе адчуваецца пачуццё страты і абмежавання. Пачатак мясцовасці вызначаюць археалагічныя знаходкі з IV ст. да н.э. — крамянёвыя наканечнікі стрэл і шпіцаў, каменныя скрабалкі, ножападобныя пласціны, часткі каменнай сякеры, фрагменты керамікі, жаночыя аздобы, манеты. Упершыню ў пісьмовых крыніцах *Высочко* пазначаны ў 1005 годзе і прыналежыць ён Тураўскай праваслаўнай епархіі. Росквіт мясцовасці выпадае на XV ст. дзякуючы беларускай дынастыі Гальшанскіх. Абсалютнай нечаканасцю для мяне была звестка рэлігійнага кшталту. Калі я спытала, які святы найбольш ушаноўваецца ў гэтым кутку Палесся, у адказ пачула такое:

— У нас мясцовая патронка — Юліяна Гальшанская!

Хоць астанкі беларуска-ўкраінскай святой захоўваюцца ў Кіеўска-Пячэрскай лаўры, радзіма святой на Палессі. Юліяна была дачкой князя Юрыя Гальшанскага, у прыватнасці цесця Уладзіслава Ягайлы. Юліяна памерла ў шаснаццацігадовым узросце. Яе культ нарадзіўся пасля смерці, нечакана, дзякуючы снам... Карацей, прызабытая ўжо князёўна стала з'яўляцца ў сне пячэрскім манахам і саноўнікам. Калі адчынілі яе труну, яе цела захоўвала нятленнасць. Тут жа над дамавінай здзяйсняліся аздараўленні і цуды. Сёння Юліяна Гальшанская — заступніца дзявочай нявіннасці і чысціні.

— Род Гальшанскіх падарыў нам тры незвычайныя жанчыны, — кажа Рыгор Яцута. — Гэта святая Юліяна, яе пляменніца Анастасія Гальшанская-Заслаўская і Фядора Гальшанская-Саламярэцкая.

У гонар Анастасіі пастаўлены помнік у цэнтры Дубровіцы. Князёўна праславілася як перакладчыца Бібліі на славянскую мову.

— На гэтую Біблію, — дадае мой субяседнік, — сёння прысягаюць украінскія прэзідэнты.

Фядора разам з мужам Іванам пабудавалі замак у Высоцку. Пры іх панаванні горад набыў эканамічны і культурны прэстыж і быў перайменаваны на Вышаград. У пісьмовых крыніцах Гальшанскія-Саламярэцкія ўпамінаюцца як фундатары царквы. Таксама ў Высоцку нейкі час жыў вядомы рэлігійны пісьменнік і дзеяч Мілецій Сматрыцкі...







Развіццё і зрух у гаспадарцы запачаткавалі каланісты з Нямеччыны, пакліканыя сюды ў 1805 годзе Вацлавам Барэйкам. Каланісты пасяліліся ў асобным квартале «Сафійка». Гэта дзякуючы ім на Палессі запачаткавалі гадоўлю кароў фрызійскай пароды — неад'емны элемент сучаснага ландшафту. Цягам наступных стагоддзяў малочная прамысловасць стане візіткай рэгіёна. Пры даваеннай Польшчы тут выпускалі вядомы на цэлую краіну прадукт: Masło z Wysocka nad Horyniem...

У Высоцку найперш сталі вырошчваць бульбу. У музеі захаваўся дакумент з 1853 года, які паведамляе, што мяшчане і жыхары навакольных вёсак атрымалі загад пасадзіць «картоплю».

— У Высоцку па сённяшні дзень кажуць «картопля», а ўсюды навокал «бульба», — адзначае Яцута.

* * *

Таксама ў музеі мне пашанцавала высветліць праблему, якая да гэтай пары здавалася чыстай абстракцыяй.

— Яшчэ ў час вайны жанчыны з навакольных сёлаў прыходзілі ў царкву ў намітках, — паясняе Рыгор Яцута, — нашы мяшчанкі надзявалі ўжо хусткі. Намітка — неад'емны элемент славянскага жаночага касцюма. Гэта 2,5-метровы ручнік з ільнянога палатна, прыаздоблены на канцах арнаментам. Жанчыны адмыслова вязалі яе на галаву.

У музеі прэзентуюцца саматканыя наміткі з роднай хаты Рыгора Яцуты. На іх захаваліся архаічныя арнаменты з матывамі васьмікутнай зоркі і ромбаў.

— Ці ведаеце запісаны ва ўзоры слоўны камунікат? — пытаю гаспадара музея. Наміткі выткала матуля майго субяседніка Ганна Тэрэнцьеўна.

— На жаль, не паспеў ужо спытаць... — чую ў адказ. — З наміткамі даволі складаная справа. Людзі пра іх забылі. Я сам ездзіў ажно ў Сернікі, каб нанава навучыцца вязаць намітку...

Намітка, як мала які элемент убору, мела сваю важкасць і значэнне ў магічных практыках. На матуліну намітку прымалі нованароджаных немаўлят -дзяўчынак. Гэты рытуал меў паспрыяць іх даўгавечнасці, дбайнасці і непаседлівасці. Намітку захоўвалі праз усё жыццё, а пасля смерці клалі яе ў дамавіну або вязалі на намагільны крыж.
На Палессі верылі, што з дапамогай наміткі можна разагнаць хмары і адагнаць ад сяла буру з градам.

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960